PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 22 (2037) ГОД XL БЕЛАСТОК 28 МАЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

## 49 ГАДОЎ НЕ ВЕДАЛІ, ДЗЕ ІХ МАГІЛЫ

*У канцы студзеня 1946 года атрад Narodowego Zjednoczenia Wojskowego, якім камандаваў Рамуальд Райс, псеўданім „Буры", пасля бойкі з савецкімі салдатамі ў Гайнаўцы адступаў на захад. Яго рэйд значылі пажары Залешан, Волькі-Выганоўскай, Шпакоў, Заняў. І смерць. На яго сумленні жыццё жыхароў гэтых вёсак і 29 вазакоў, замардаваных у лесе каля Пухал-Старых, гміна Браньск. Вазакі былі з Чыжоў, Збуча, Ягаднік, Пасечнік, Падрэчан, Крывой, Махнатага, Арэшкава, Лазіцаў, Залешан. Узялі іх 27 студзеня 1946 г. у лесе каля вёскі Лазіцы, куды яны былі пасланы гміннымі ўладамі па дровы для школ. Вазакі-палякі былі адпушчаны. Пусцілі таксама старэйшых, тых са слабейшымі коньмі, ці ненадзейнымі вазамі. Некалькі асоб ратаваліся ўцёкамі. Папоўнілі іх жыхары Краснага Сяла.*

*Сем'і замардаваных упершыню пабачылі месца смерці сваіх блізкіх у лістападзе мінулага года. Пасля 49 гадоў. 13 мая сёлета зноў нанялі аўтобус і сарганізавалі — як самі гаварылі — другую пілігрымку ў Пухалы. Як і першым разам, быў з імі настаяцель Чыжоўскага прыхода а. Ян Раманчук.*



*Жыхары Пухалаў вядуць у другое месца, на ўзгорак.*

* * *

Ужо быў гатовы дол, калі з лесу падышлі два мужчыны.

— *Proszę państwa, nie stawiajcie tego krzyża tutaj. To złe miejsce,* — пачалі яны.

На тварах прысутных паявілася недаўменне, якое паступова пераходзіла ў абурэнне. Як гэта, нядобрае месца? Тут замардаваны нашы блізкія, а нам кажуць не ставіць крыж!

— *Proszę państwa, to nie tutaj. Chodźcie z nami, pokażemy wam miejsce, gdzie zastrzelono tych ludzi.*

— *Далёка?*

— *Не, метраў сто пяцьдзесят — дзвесце. Тут во, бачыце, мокра. Сюды ў балота іх ніхто не гнаў. Забілі іх на ўзгорку.*

Адзін з прыйшоўшых, гэта солтыс вёскі Пухалы-Старэ. Нарадзіўся ў сакавіку 1946 года, два месяцы пасля трагедыі. Чуў пра яе ад бацькі, ад старэйшых. Другі — з 1928 года.



*Тут ляжаць астанкі маладога чалавека; захаваліся амаль усе зубы.*

— *Акружылі нас, нікому з вёскі носа не далі высунуць,* — расказвае. — *Але я бачыў, як іх гналі, раздзетых, пабітых. Адзін з іх моцна кульгаў.*

— *Ай, Божанькі,* — загаласіла жанчына, — *то Васька!*

(Васіль Білеўскі са Збуча, паводле ацалеўшых вазакоў, таксама мог выратавацца. Яго, як калеку, адпускалі, але ён сказаў: „Без каня не пайду".)

— *Гэта больш-менш тут,* — паказваюць праваднікі месца сярод трох—чатырохгадовых сасонак. — *Пакуль не садзілі гэтага лесу было добра відаць, але як зрабілі нівеліроўку, як прайшлі бульдозеры, плугі, дык мы і самі на сто працэнтаў не ўпэўнены.*

Арыенцірам служыць палявая дарога, якая тут спрадвеку. І два рады яснейшага пяску. Тут восенню 1944 года стаялі часці Чырвонай Арміі перад наступам на Варшаву і далей на захад. Жоўты пясок — след па зямлянках. Вазакоў гналі гэтай дарогай, па пяцёх. Забілі іх ля першых зямлянак, каб далёка не адыходзіць у лес. Зямля была замёрзлая, дык іх нават ніхто не закопваў. Прыкрылі голлем, снегам.

— *Ці то праўда, што іхнія косці потым сабакі цягалі?* — пытаецца хтосьці.

— *Як то ў лесе,* — уздыхае старэйшы мужчына і паўтарае цішэй: — *Як у лесе...*

Ва ўказаным месцы пачынаюць капаць. Справа явіцца безнадзейнай. Вакол некалькі гектараў маладняку, ці гэта ж тут? Ды і ў 1951 годзе была праведзеная эксгумацыя.

— *Так, была,* — кажа старэйшы, — *але глыбока ніхто не капаў. Тут напэўна яшчэ ёсць астанкі.*

Яма робіцца глыбей калена. Нічога. Хтосьці кажа, што тут зямля зрушана. Дзіва, што за пяцьдзесят гадоў не раз магла быць зрушана, адзываецца нехта іншы. Капаюць. Рыдлёўка стукае ў нешта цвёрдае. Гэта кол, які мог быць часткай канструкцыі зямлянкі. А потым... косць нагі чалавека. Затым другая, тонкая. Людзі прыціхаюць. Капачы маняюцца. Вымаюць косць рукі, рабро, некалькі дыскаў з пазваночніка, раструшчаны чэрап і сківаіцы, у ніжняй не хапала аднаго зуба, у верхняй — двух. Відаць, гэта быў малады чалавек.

На гэтым спыніліся. Костачкі пазбіралі ў цэлафанавы мяшочак, закапалі зноў у зямлю. Над імі паставілі крыж. Бацюшка памаліўся за супакой душ нявінна загінуўшых. Другі крыж паставілі на ўскраіне лесу, там, дзе ўжо раней падрыхтавалі дол. Калі святар пералічваў імёны замардаваных, людзі плакалі ўголас.

— *Тут забілі 29 асоб,* — сказаў Юзэф Антанюк, які адшукаў гэтае месца, — *27 эксгумавалі на могільнік у Кліхах. Можа мы сёння знайшлі тыя астатнія дзве асобы. А мо ляжаць яны яшчэ ў іншым месцы.*

* * *

Наймалодшым з вазакоў быў Аляксей Галёнка з Вялікіх Пасечнік, Гайнаўскай гміны. Не было яму тады нават 16 гадоў.

*Працяг на стар. 5*



*Спачатку выкапалі косць нагі.*

## Адкрыццё XIV Фестывалю царкоўнай музыкі

Фестываль царкоўнай музыкі стаў бадай ці не асноўнай візітнай карткай Гайнаўкі. У нядзелю, 14 мая, паўтары гадзіны перад афіцыйным адкрыццём прыйшоў я ў Сабор св. Тройцы — месца правядзення Фестывалю. Храм быў яшчэ закрыты, перад храмам пуста і я рашыў прайсціся па Гайнаўцы і пагледзець, як пра гэтае мерапрыемства інфармуе горад сваіх жыхароў і гасцей. Над вуліцай паміж Саборам і Домам культуры „Гурнік" транспарант, а таксама сцяжкі тых дзяржаў, з якіх прыехалі ўдзельнікі сёлетняга Фестывалю. Шукаю беларускага: ёсць яшчэ ці можа ўжо няма? Ёсць; чырвоная кроў Хрыстова на чыстай, белай душы Яго. Гэтую сімволіку заўпарціўся адцураць аб беларусаў іх найпершы служака „трэцяму Рыму", бо так называў Маскву пскоўскі манах Філафей у XVI стагоддзі. Мог ён мець на ўвеце гадавальнік імперыі, але магчыма, што расеец мроіў і пра цэнтр хрысціянства. Іду далей, а палітыка замяняе мне цень у хмарнае ў гэты дзень надвор'е і цягнецца за мною. Іду вуліцай і разглядаюся, хто з зямнога пантэона ёй заступнічае. На „блёках", сімвалах геркаўскай „другой Польшчы", візсяць таблічкі аб вулічным заступніцтве Яго каралеўскай моцы Стэфана Баторыя. З другога боку, дзе старэйшыя, больш прыземныя будыніны, вуліцай апякуецца не вяльможа, а прасты але непакорны рабочы — Людвік Варынскі. А адзін будынак то на ўсякі выпадак зафундаваў сабе не толькі абодвух знакамітых заступнікаў але і заклік „Жыве Беларусь!". Паварочваю ў вуліцу Мар'яна Бучка, якая ў 50-я гады была гайнаўскай Уол-стрыт. Адкрыта крама „Sklep uniwersalny". У вітрыне газіраваныя напіткі і папяросы, а ў дзвярах — жывот барадатага крамара. Рыхтык быццам 15 гадоў таму, калі ў крамах былі воцат, чай і прадаўшчыцы. У „жалезным склепе" вокны і дзверы пазабіваны шчыльна, відаць старой будыніне холадна і думае ўжо пагрэцца ў нейкай печы. У будынку даўняй Гарадской рады — „выкладзіны", а ў камяніцы, якую ў 50-я гады займаў „камітэт" — піва, віно, гарэлка. Заходжу на аўтобусны вакзал. На рэкламным слупе, што перад вакзалам, плакаты пра Фестываль. Уваходжу ў сярэдзіну. Прыбіральшчыца сціpae падлогу, у пачакальні шэсць чалавек. Праз адкрытыя ад прыбіральні дзверы па памяшканнях гайнаўскага аўтобуснага „вакзала" бадзёра расходзіцца пах так характэрны для нашых тутэйшых вакзальных прыбіральняў. Не заглянуў сюды яшчэ наш дынамічны капіталізм і не павесіў запрашэння „Welcome to Hajnówka". Можа і добра, што з гэтым не спяшаецца. Пра Фестываль унутры вакзала ні слуху ні духу. Іду на чыгуначную станцыю. Пачарнела яе абліцоўка быццам ад нейкага гора ці хваробы. Бо і ў параўнанні з мінулым маладзенькую станцыю ахапіў моцны недуг. Рэйкі з паўднёвага боку, па якіх калісь ездзілі

*Працяг на стар. 8*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Polska, Węgry, Republika Południowej Afryki, Gambia i Maroko są krajami najniebezpieczniejszymi dla turystów — podało Brytyjskie Stowarzyszenie Konsumentów.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 108)*

Варта пры нагодзе заўважыць, што ў братняй Гамбіі канібалаў ужо няма.

* * *

*Biedna Polska od wielu lat wspomagana jest darami płynącymi z Zachodu. Gdyby nie ofiarność różnych ludzi, przestałyby funkcjonować szpitale, inwalidzi nie wychodziliby z domów, a biedacy przymieraliby głodem. Ta wspaniała pomoc, kierowana na zmianę do Polski i krajów Trzeciego Świata, daje dużo satysfakcji bogatemu społeczeństwu, które jej udziela. Działalność charytatywna potrzebna jest bardziej ofiarodawcy niż obdarowanemu. Ten pierwszy poprawia swoje samopoczucie. Ten drugi dostaje często rzeczy niepotrzebne lub przeterminowane...*
*(Wprost, nr 20)*

* * *

*Навошта панславісту Лукашэнку з мроямі пра маскоўскі прастол выдумляць пераходныя сімвалы? Ці не лепей было б адразу галасаваць за двухгаловага арла і расейскі трохколер? Тады ўсё стане на свае месцы.*
*(Літаратура і мастацтва, н-р 16)*

Думка слушная, але спозненая. Господин президент об этом даже не подумал.

* * *

*Kościół w Polsce nie stworzył dla wiernych chrześcijańskiego i godnego modelu życia w nowym państwie. Raczej podjął nierozsądną walkę z nowoczesnością.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 108)*

Што за хлусня! Можа святары ездзілі „Сірэнкамі" ці „Трабантамі"? Мы не бачым ніякай варожасці з боку Касцёла да сучаснай тэхнікі.

* * *

*Dlaczego na Białorusi, gdzie mieszka około miliona Polaków, większość z nas wciąż posługuje się językiem rosyjskim?*
*(Głos znad Niemna, nr 14; pismo Związku Polaków na Białorusi)*

Мы таксама не ведаем!

* * *

*Uważam, że w „Przeglądzie Prawosławnym" jest za mało artykułów o pijaństwie wśród młodzieży, o tym, czy słuchanie współczesnej muzyki ma wpływ na wiarę,* — патрабуе чытач *„Przeglądu Prawosławnego" (nr 5).*

* * *

*Nowy parlament Łukaszence nie jest potrzebny. W zupełności satysfakcjonuje go wariant przeciągających się wyborów, podczas których obowiązki będzie pełniła obecna Rada Najwyższa. Nie ma ona już ochoty na spory po spektakularnym pobiciu przez oddziały KGB opozycyjnych parlamentarzystów.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 111)*

Ходзяць чуткі, што рыхтуецца новы рэферэндум, на які будзе вынесена прэзідэнтам пытанне: „Ці падтрымліваць змену назвы дзяржавы „Беларусь" на „Манкуртыстан".

* * *

*W Polsce z powodu braku odwagi cywilnej wszędzie panuje fałsz urzędowy, panegiryki w prasie i publiczność gotowa do klaskania, choć państwo może się chylić ku upadkowi. W każdym okresie przełomowym sprawą honoru było podporządkowanie się, choćby najbardziej szaleńczej — parodii gromadnej. W Polsce odwaga wojskowa kojarzyła się przeważnie z kompletnym tchórzostwem cywilnym. Brak odwagi cywilnej zawsze kompensowano alkoholem. W Sejmie I Rzeczypospolitej przemawiali najczęściej pijani posłowie. Kto był trzeźwy, szedł spać, a kto pijany, o Rzeczpospolitej radził i prosił o głos. Żadne niebezpieczeństwo nie ustraszy Polaka, lecz praca łatwo go zrazi. Dlatego Polacy wprost uwielbiają świętowanie. W okresie Polski Ludowej zwyczaj nadmiernego świętowania utrzymał się. Na co dzień staliśmy się odświętni. W opinii cudzoziemców, Polaków cechuje pycha, służalczość, samowola i próżność.*
*(Polityka, nr 18)*

* * *

*Wielka Wojna Ojczyźniana zakończyła się już w roku 1944. Potem przekroczyliśmy granice ojczyzny i zaczęła się wojna grabieżcza o rozszerzenie stref wpływów przez imperium radzieckie. Na wojnie każdy kradnie i kombinuje. W latach 1941—1943 każdy dowódca batalionu miał już swojego kucharza i swoją dziewczynkę, a wyższe szarże opływały we wszystko, wielu wróciło z wojny bogaczami. A jak się zachowywała ludność zamieszkała na terenach walk? Tylko front się oddalał, jeszcze nie pochowano zabitych, a już trupy ograbiano ze wszystkiego, co było można. W zimie odrąbywano stopy, by w domu zdjąć buty. Są całe cmentarze — nasze i niemieckie — gdzie leżą szkielety bez dłoni, nóg i czaszek, bo wyrywano także zęby,*

— сказаў паэт, удзельнік вайны Юрый Левітанскій.
*(Gazeta Wyborcza, nr 106)*

Такая ёсць праўда пра вайну і чалавека.

* * *

*Metro w Warszawie jest po to, aby ludzie mogli szybciej pojechać z kościoła do kościoła, jak zauważył słusznie prymas Glemp. Jednak z przykrością dowiedziałem się, że z metra będą również mogli korzystać ludzie jeżdżący do pracy i wracający z pracy do domu, a nawet ci udający się na koncert, do kina i na randkę. A przecież kupując bilet na przejazd metrem, nie trzeba będzie, niestety, przedstawiać świadectwa chrztu, ani zaświadczenia z parafii rzymskokatolickiej o ostatniej spowiedzi, więc wynika z tego, że metro będzie również dostępne dla ludzi niewierzących. Oto do czego prowadzi nadmierna tolerancja. Jak sobie pomyślę, że tym kawałkiem warszawskiego metra jeżdżą też jacyś chorzy do lekarza i zabierają może miejsca innym, którzy chcieliby pojechać do kościoła — to aż mnie trzęsie z oburzenia! Przecież to zasadnicze ograniczenie przez resort zdrowia swobód religijnych,* — іранізуе Станіслаў Тым.
*(Wprost, nr 16)*

* * *

*Królem Polski mógłby zostać Lech Wałęsa, któremu przyznano już tytuł książęcy.*
*(Polityka, nr 15)*

Кароль Лех I і Каралева Данута I — гучала б зусім прыстойна. Трошку нядобра, што князь Пшэмка сядзіць у турме, бо нейкая рацяпа стукнулася з яго аўтамабілем. Ёсць жа і межы дэмакратыі, якіх нельга перасякаць!

# З мінулага тыдня

**XIV Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі Гайнаўка'95** праходзіў у днях 14—21 мая. Сёлета Міністэрства культуры і мастацтва прысвоіла Фестывалю нулявую катэгорыю. Гэта значыць, што набыў ён такі ранг, як Шапэнаўскі конкурс ці фестываль „Варшаўская восень". Паралельна з фестывальнымі слуханнямі адбываліся канцэрты калектываў у Варшаве, Беластоку, Гайнаўцы і навакольных мясцовасцях. *(Пра інаўгурацыю Фестывалю пішам на 1 і 8 старонках).*

Чарговы скандал у польска-расейскіх узаемаадносінах успыхнуў з прычыны падрыхтоўкі да адкрыцця ў Кракаве радыёстанцыі **„Свабодны Каўказ"**, — піша маскоўская газета „Российские вести", а расейскія парламентарыі і дыпламаты выступілі па гэтаму поваду з рэзкімі заявамі.

**Віцэ-міністр культуры і мастацтва Тадэуш Поляк** пасля сустрэчы міністра **Казімежа Дэймака** з Мітрапалітам Варшаўскім і ўсяе Польшчы **Васіліем** заявіў, што дзяржава перадасць 1,5 мільярда старых злотаў на завяршэнне адбудовы царквы ў Грабарцы. Віцэ-міністр прыгадаў, што ў мінулым годзе міністэрства перадало на рэстаўрацыю помнікаў царкоўнага мастацтва 12 млрд. зл., а ў гэтым годзе — 9 млрд. зл.

**У Доме тэхніка ў Гродне** адкрылася пастаянная выстаўка прадуктаў польскай вытворчасці. Яе арганізатарамі выступаюць Прамыслова-гандлёвая палата ў Беластоку і гродзенская Прамыслова-гандлёвая палата Саюза палякаў у Беларусі. На першай выстаўцы свае прадукты рэкламавалі 20 польскіх фірм.

**Фірма „Бяль-Экспа"** і варшаўская суполка „Мастрэйд-Поланд" ладзілі ў Беластоку трохдзённы кірмаш для 27 егіпецкіх гандлёвых арганізацый. На кірмашы экспанаваліся харчовыя прадукты, касметыка, санітарныя, папяровыя і скураныя вырабы, а таксама глазураваная плітка, абутак і бытавая хімія. Мэтай кірмашу, апрача продажу тавараў на польскім рынку, былі пошукі шляхоў на ўсходнія рынкі цераз польскіх пасрэднікаў.

Паводле інфармацыі Ваяводскага цэнтра занятасці насельніцтва (Wojewódzkiego Urzędu Pracy) у Беластоку, у красавіку нязначна зменшыўся лік беспрацоўных — на 1,6%. У канцы красавіка зарэгістравана было 44 638 беспрацоўных, а амаль 40% незанятых не маюць права на атрыманне грашовай дапамогі па беспрацоўю. У гэтым жа месяцы прадпрыемствы прад'явілі 1770 месц працы — на 5,4% больш, чым месяц раней.

**Беластоцкае ваяводства** апынулася ў ліку ваяводстваў з найбольшай колькасцю тэлефонных апаратаў на 100 жыхароў. Цяпер толькі ў 42 беластоцкіх вёсках няма тэлефонаў. Кожны шосты жыхар Беласточчыны карыстаецца сваім тэлефонам (у краіне — кожны дзевяты).

У філіяле варшаўскага завода **„Эльва" ў Бельску-Падляшскім** рыхтуюцца групавыя скарачэнні. Са 180 працаўнікоў звальненне з працы атрымалі 40 чалавек. У бельскай „Эльве" выпрабляюць электралітычныя кандэнсатары.

Пачаўся вясенні **археалагічны сезон**. Беластоцкія археолагі вядуць раскопкі ў ваколіцах **Гайнаўкі, Бранска і Заблудава**. Паблізу **Курашава і Ласінкі** былі знойдзены стаянкі рымскага перыяду. Летам археолагі будуць даследаваць раскопкі ў **Гарадку, Бранску і Чорнай-Вялікай** (гміна Гродзіск).

Грамадзянін Рэспублікі Беларусь **Аляксандр Сяргееў** — намеснік старшыні Раённага выканаўчага камітэта ў Свіслачы, 20 красавіка г.г. паехаў за лякарствамі для жонкі ў Гродна, а калі б іх там не дастаў, меў паехаць у аптэку ў Саколку. У гэты дзень Аляксандр Сяргееў перасек беларуска-польскую мяжу і ўехаў на тэрыторыю нашай краіны. Назад ён не вярнуўся і да гэтай пары яго лёс невядомы. Падарожнічаў ён на „Жыгулях" (рэгістрацыйны нумар А 513 ГК). Пошукі прапаўшага вядзе Ваяводская камендатура паліцыі ў Беластоку.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

> Ці будзе школа ў Дубяжыне? — рэпартаж Міколы Ваўранюка.

> Маладых бабулек знайшла Міра Лукша ў Макаўцы.

> Выстаўкі беларускіх мастакоў з Беласточчыны.

> Нарыс Сяргея Чыгрына пра Хведара Ільяшэвіча.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Пасля выбараў

14 мая г.г. 64,8% выбаршчыкаў прыняло ўдзел у парламенцкіх выбарах і прэзідэнцкім рэферэндуме. Перамогу атрымаў прэзідэнт, паколькі большасць выбаршчыкаў выказаліся за інтэграцыяй з Расеяй, за наданне расейскай мове статуса дзяржаўнай, за ўвядзенне абноўленай савецкай сімволікі і за права прэзідэнта на роспуск парламента. З гэтай нагоды прэзідэнт Расеі Барыс Ельцын накіраваў прэзідэнту РБ віншавальнае пасланне з сувязі з перамогай на рэферэндуме.

У выніку галасавання ў парламент з 260 дэпутатаў увайшлі толькі 19 народных абраннікаў. Другі тур выбараў адбудзецца 28 мая г.г. *(пра выбары чытайце на 4 старонцы).*

### Аднадумства ў эфіры

У ходзе выбарчай кампаніі сродкі масавай інфармацыі прадстаўлялі толькі пазіцыю прэзідэнцкай каманды і кляймавалі дэмакратычныя партыі і арганізацыі, прыкладам чаго можа быць фільм Юрыя Азаронка „Нянавісць", які тэлебачанне паказала аж двойчы. Нясмелыя спробы прэзентаваць розныя погляды канчаліся строгім умяшаннем уладных структур. Так было і на радыё, дзе па загаду намесніка старшыні Тэлерадыёкампаніі Уладзіміра Ядранцава была прыпынена праца II праграмы, якая выходзіць у эфір на працягу пяці гадзін штодня. Прычынай забароны стаў дуалізм думак у эфіры адносна прэзідэнцкага рэферэндуму і выбараў. Яшчэ раней на радыё былі забаронены тэлефонныя званкі слухачоў у прамым эфіры. Непасрэднай падставай стала перадача з удзелам драматурга Аляксея Дударава.

### Пазняк выйграў з Лукашэнкам

Па іску лідэра БНФ Зянона Пазняка адбыўся судовы разбор супраць прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, які абвінавачваўся ў паклёпніцтве. Судовая камісія рашыла прызнаць неадпавядаючымі рэчаіснасці і ганьбячымі гонар і годнасць Зянона Пазняка звесткі, выкладзеныя ў прамове Аляксандра Лукашэнкі ў частцы аб тым, што на мітынгу 18 снежня мінулага года Пазняк заклікаў запісвацца ў шэрагі абаронцаў Чачні альбо ехаць туды ўдзельнічаць у баявых дзеяннях, і абвергнуць гэтыя звесткі праз рэспубліканскае радыё шляхам абвяшчэння зместу судовага рашэння ў адной з інфармацыйных перадач.

### Гарады-пабрацімы

Два гады таму ў горада Баранавічы з'явіўся яшчэ адзін пабрацім — Гдыня. Тэрмін дружбы невялікі, але гарады-пабрацімы ўжо абмяняліся афіцыйнымі дэлегацыямі, выступленнямі спартыўных каманд, калектываў мастацкай самадзейнасці. На 50-годдзе перамогі ў Баранавічы прыехаў прафесійны тэатр з Гдыні. Яго калектыў паказаў гледачам музычны спектакль паводле Станіслава Манюшкі. У ролі рэжысёра спектакля выступіла вядомая спявачка Мар'я Фолтын.

### Поспехі салістак

На II конкурсе імя Станіслава Манюшкі ў Варшаве ў лік дзевяці ўдзельнікаў заключнага тура трапіла маладая салістка Беларускай оперы Таццяна Варапай. Яе вынік — спецыяльная прэмія за лепшае выкананне сачынення Манюшкі і запрашэнне на Фестываль яго імя. Салістка Тэатра музычнай камедыі Леся Лют адзначана прэміяй за лепшае сапрана.

### Пры(х)ватызацыя

Кантрольная Палата правяла выбарчую праверку прыватызацыі рэспубліканскай і камунальнай уласнасці. У ходзе яе ўстаноўлена значныя парушэнні, найбольш распаўсюджаны з якіх адхіленні ад рэгламентацыі парадку ацэнкі прыватызуемай маёмасці. На Гомельскім малочным камбінаце цана прыватызаваных аб'ектаў заніжана на 21,3 млн. руб. У гэтым жа абласным цэнтры на фабрыцы марожанага не дааценілі кошт маёмасці на амаль 6 млн. руб. Гродзенскае аб'яднанне „Праца" ўтаіла ад дзяржавы 0,6 млн. руб. Нават пры прыватызацыі так невялікага аб'екта як бельская школа ў вёсцы Навасёлкі Гродзенскага раёна яе сапраўдную цану панізілі на больш як 1 млн. руб. У падмане дзяржавы перасягнулі іншых у прадпрыемстве „Расонка" Віцебскай вобласці. Тут кошт прыватызуемай маёмасці заніжаны амаль на 200 млн. руб.

### Недахоп мукі

У Беларусі па-ранейшаму напружаны стан з забеспячэннем хлебазаводаў пшанічнай мукой вышэйшага і першага гатункаў. Па гэтай прычыне скарацілася пастаўка булачных вырабаў гандлёвым прадпрыемствам краіны. У прыватнасці па Мінску зніжэнне склала 20% у параўнанні з мінулым месяцам. З мэтай недапушчэння перабояў з забеспячэннем насельніцтва вырашана пастаўляць вырабы з пшанічнай мукі другога гатунку.

### Халодная пасяўная

Цвіце вішня, сей грэчку, — гаворыць народная прыказка. Вішня то цвіце, але з тэмпамі пасеву грэчкі, хоць і павялічылі плошчы пад яе, землеробы Гродзеншчыны не спяшаюцца. З планавых полошчаў 5 184 гектары на сення пасеяна толькі больш як 600 га. Тым часам заканчваецца ў вобласці пасадка бульбы.

# Запаветнік

— Пра нашу вёску ведаюць у свеце, — кажа мне ў краме ў Масеве I Люцына Жлобін. — Пра Масева была напісана магістэрская дыпломная праца ў Францыі. Пра прыроду і людзей Масева і аколіц збірала матэрыялы парыжанка Анка Мары Ледэнка — пра жыццё, працу людзей. Выканала шмат здымкаў, правяла многа размоў з жыхарамі. Наша сяброўка Анка лічыць, што такая з'ява, як Масева, павінна быць захавана. Для іх у Еўропе — гэта экзотыка.

Перад крамай стаяла група мужчын з півам, хто на ровары, хто ля аўто ці матацыкла. У краму за мною зайшоў Янка, пушчанскі спецыяліст па карэадах, як мне сказалі, і магу яго называць толькі „Янкам на ровары", іншыя падрабязнасці наконт свае асобы захацеў захаваць толькі да майго ведама. Ён пасля будзе маім праваднікам па вёсцы.

Ці будзе тут строгі запаведнік, як ходзяць слухі? Меркаванні розныя. Найбольш эмацыянальна выказваецца пані Люцына, якая на справах лесу знаецца:

— Калі існуе нацыянальны парк, праводзяцца ў ім санітарныя высечкі. У выпадку *сціслага* запаведніка ў лесе няма з боку чалавека ніякага ўмяшання. Ездзяць цяпер па пушчы экалагічныя экскурсіі, паказваецца многа розных перадач аб пушчы. На маю думку, павінна быць так, як цяпер: разумнае ўмяшанне чалавека ў жыццё пушчы. Крыкуны і клікушы галосяць, што па-дурному нішчыцца пушча, што выразаюцца здаровыя дубы... Умешваецца ў жыццё пушчы настолькі, наколькі гэта неабходна, калі дрэва апанавалі шкоднікі. Не вылечыш дрэва, не высячэш і не вывезеш яго, шкоднік размножыцца, будзе атакаваць здаровы дрэвастой. Ці эколагі маюць рацыю, калі крычаць, што лес трэба пакінуць самаму сабе?

Ай, я не чула, каб хтосьці што падпісваў аб заснаванні тут запаведніка! Пакуль што, маем тут запаведнік біясферны. Вядома, тут „зялёныя лёгкія" не толькі Польшчы, але і ўсяе Еўропы. Ніхто пушчы не сячэ на „ўра", як трагічна паказваюць гэта ў тэлебачанні, не цярэбіць яе! Нядаўна была экскурсія паслоў і сенатараў у Белавежы, пахадзілі па пушчы і нічога такога не ўбачылі, каб біць на трывогу, не ўбачылі тых пянькоў, што быццам бы толькі засталіся ад нашае пушчы. Не ведаю, хто і з якой мэтай гэта ўсё раздзьмухвае. Самі пайдзіце ў лес — гэта ж сапраўдная пушча...

— Ну, няма самахода, то магу ровaрам падвезці, — ахвотна ахвяруецца „Янка на ровары".

— Не ведаю, ці вы тут кагосьці знойдзеце, хто быў бы за строгім запаведнікам. Вёска жыве з пушчы. Столькі тут сыравіны з хворых дрэў, драўніны, якую трэба перапрацаваць. Што было б з тымі ўсімі прадпрыемствамі, з тымі людзьмі, што гэтым займаюцца? — працягвае пані Люцына.

Хлопцы хвалююцца.

— Што кажуць, што нашу вёску высяляць будуць?! То *ніц подобнэго*! Вёска будзе, яшчэ і нас перажыве! Тут у нас турыстыка пойдзе, можна будзе з гэтага і жыць!

— Ужо ёсць. Учора вось з Варшавы прыязджалі...

— Янка, а яна паставіла табе піўцо?

— А я і не прасіў!

— Ты, я ўсё ж такі чуў, што як тут зробяць *рэзерват*, то нас будуць высяляць. Праўду кажу, чуў.

— *Нігды* не высяляць людзей. Тут ано лесьнічоўкі будуць, наскрозь лес. *Найвышай* людзі самі пойдуць.

— У нас яшчэ не канец свету! Во там канец свету, мяжа дзяржаўная!

Старэйшы, высокі дзядзька адмахваецца:

— Пані, я да нічога не *ўтранчаюся*, гэта не мая справа, што тут яны зробяць. Я стары чалавек.

— Вам усё адно, што з Масевам будзе?

— Эгэгэ-ггм. А што тут гаварыць.



*Солтыс Масева з унучкамі і Ян Вільчык.*

— Найбольш ведае пра ўсё Янка Леўша. Вы ідзіце ў яго пытайце. Ён калісь у „Ніву" пісаў.

Хлопцы едуць на роварах, я не скарыстаю з іх прапановы пад'ехаць на раме. Мінаем пустыя пляцы, пакрытыя ізумрудней маладзенькай травой, выганы з парослымі копчыкамі быльнягу месцамі, дзе калісь стаялі хаты, прысады, што абселі дарогі ўнікуды. Кажуць хлопцы, хаты тут стаялі і да вайны, і пасля яе. А вось там — будынак гатэля „на ўласным утрыманні".

Янка Леўша працуе ў сталярні Мішы Філановіча. Абяцае, што прышле пару допісаў у „Ніву" пра мясцовыя справы, успаміне былых карэспандэнтаў, пытае пра новых. Шкадуе, што так доўга не браўся за пяро. А ёсць пра што напісаць.

У Масеве, як амаль ва ўсіх вёсках.

— У вёсцы больш рэнцістаў і пенсіянераў, чым гаспадароў. Маем асадніка, набраў зямлі ды гадуе авечак, думае разводзіць коней. Ці Масева будзе далей існаваць? *Зацягаюць* ваду, выкапана ўжо студня, у гэтым годзе маюць падключыць водаправод. Нашто было б выдаваць такія мільярды, калі б вёска перастала існаваць? Ці будзе запаведнік? Палова людзей мае прыбытак з лесу. Хіба, аднак, штосьці плануецца з гэтым рэзерватам! Вёску, мажа, і пакінуць, як скансэн. Ніхто, думаю, не хацеў бы перасяляцца, пакідаць усё гэта. Кожны пенсіянер штосьці тут мае, трымае, з чагосьці жыве, дапамагае дзецям у горадзе. Можа, маладзейшыя і не былі б супраць выехаць, але дзе знойдуць працу? Моладзі тут няшмат, кавалераў трохі, самотных. Даехаць можна куды трэба, але не заўсёды. Аўтобусы ёсць тры ў Гайнаўку, адзін у Беласток, але не *курсуюць* большую частку года з прычыны кепскай, непраязной дарогі — разбіваюць яе вялікія, цяжкія „Камазы" і „Прагі". Людзі тэлефоны маюць, але няма яго ў краме, а быў ад вайны, і быў найбольш даступны. Цяпер праз тое, што не можна было хутка дазваніцца, чалавек памёр, пакуль вызвалі скорую дапамогу. І пажарную страж маем, хаця не дзейнічае. Вось там пад буслянкай — дэпо, там ёсць помпа і гідрафор...

Маладых сем'яў у вёсцы пару ёсць, большасць з прыезжых, леснікоў. Вось жонка Мішы Філановіча, Аліна, сядзіць на лавачцы ля вуліцы з малым Давідкам. Як тут маладым жывецца? Нуднавата. Няма пару добрых гадоў „клюбу" — няма *шэфовай*, і не было для каго яго трымаць, моладзі няшмат, *не аплачалася*. Як тут адчувае сябе маладое сужонства?

— Жывем, бо мусім, нікуды не пойдзеш. Пакуль пры бацьках. І з фірмай *тожа* цяжка. Драўніну купляем, дзе танней, робім на заказы, і дубіну, і паркет, і панелі, і за мяжу таксама высылаем, цяпер у Бельгію. Калі б не аплачвалася, то не рабілі б. Хто як можа, так і жыве.

Солтыса, Васіля Вярбіцкага, сустракаю з унучкамі на лавачцы насупраць *склепу*. Пералічвае гаспадароў: Байко, Мацкевіч Янак, Трусэвіч, Бароўскі (мае *зо тры* гектары), Бура, ён сам, Жора Байко, Ляшчынскі ну і вялікі гаспадар, прыезджы, што хіба з 80 гектараў зямлі набраў, гадуе авечак ды сее лубін. Сее, але ці збярэ яго? Кажуць, што калі пасееш, то і збярэш, але трэба зямлю дагледзець. А ўнучкі Вярбіцкага сынавы: Давідок, Юлітка, Натальк. Дзяцей з Масева I аж васемнаццаць у launch нараўчанскую школу даязджаюць, 12 кіламетраў, зімой то на прыцемках выязджаюць (а палове сёмай), у цемры і вяртаюцца.



*Мікалай Бількевіч: "І сам я ўжо стары..."*

Дзядзька Мікалай Бількевіч, *32 рочнік*, якраз сабраўся *варыва* сеяць. Жонка толькі што пайшла да дачкі, што жыве ў Масеве. Сын у Беластоку, з вышэйшай адукацыяй, жыве і працуе. Што тут будзе, калі *рэзерват кругом* будзе?

— Што то будзе! Вёска жыве з лесу. Якія тут „рольнікі" з нас? Калі ў каго 5-7 гектараў, то ўжо вялікі гаспадар. Свайго лесу не маем, усё *паньствовэ*. Збіралі мы подпісы, каб запаведніка ў нас не рабіць. Паслухаеш у тэлебачанні, усе хочуць, каб нас у рэзерваце зачыніць. Масеву з дзвесце гадоў. Ну, вядома, далі б месца кожнаму новае, калі захацеў бы выехаць. Я вось з хвораю нагою ўжо даўно, але гаспадару, даваў якась сабе рады. Свіней карміў, *тучнічкаў* здаваў, па пару *пэрэзімкаў*. Ад падстаў будаваўся. У хаце *памост* быў на пяску. Мог пабачыць шмат свету, меў прапанову *замустравацца* на дальнемарскім караблі з войска, але ў 1954 вярнуўся сюды. Тата прасіў: „Колічку, сыночку, ты ж у нас адзін, каля каго мы будзем жыці?". А цяпер і сам я ўжо стары. Мураваныя хлеў і склеп паставіў. І за маю нядаўна яшчэ новую хату швэды бяруцца. Хату новую трэба было б ставіць. Але няма каму тут жыць. У нас файнае месца, клімат добры, здаровы, чыста. Зямлю здаў. Добра, што чалавек яе робіць, бо шмат чыя аблогаю ляжыць... Бусел у мяне на дзічцы жыве. Нядаўна ў нас у Масеве спісвалі бусліныя сем'і. У нас тут з шэсць гнёздаў будзе. На стаўбе манцёры спецыяльна падымалі буслянку, што на дратах ляжала, бо было небяспечна і птушкам, і лініі. Да слупа прышрубавалі спецыяльныя кола, падсадзілі гняздо вышэй. І новым буслам месца падабаецца, шукуюцца новыя пасяленні.

Цішыню з цуканнем птушак разбівае гудзенне праязджаючых цяжкіх машын, што едуць з пушчы і ў пушчу.

**Міра Лукша**
**фота аўтара**



*Хто з матацыклам, хто з аўтамабілем, хто з роварам...*



*Фрагмент інтэрв'ю з паслом Рэспублікі Беларусь у Польшчы Георгіем Таразевічам*

Імя гэтага палітыка даволі вядомае не толькі на Беларусі, але і ў блізкім і далёкім замежжы. Георгій Таразевіч працяглы час узначальваў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР, працаваў старшынёй парламенцкай Камісіі па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета СССР, непасрэдна ўдзельнічаў у міратворчых тушэннях міжнацыянальных пажараў часоў пачатку перабудовы ў Прыбалтыцы, Крыме, на Каўказе.

*— Здаецца, вы адзіны з дыпламатычнага корпуса, хто ўключыўся ў перадвыбарную гонку. Але ж адначасова з выбарамі ў Вярхоўны Савет 14 мая адбудзецца рэферэндум, ініцыяваны Прэзідэнтам. Як вы адносіцеся да гэтай падзеі?*

— З аднаго боку вельмі станоўча. Гэта, па сутнасці, першы кіраўнік дзяржавы, які вырашыў параіцца са сваім народам. Ды і практычна рэферэндум значна павялічыць колькасць грамадзян, якія будуць удзельнічаць у выбарах. Што датычыць зместу пытанняў плебісцыту, то тут, на мой погляд, ужо загадзя адбываюцца даволі складаныя калізіі.

**Пра мову.** Так, большасць грамадзян Беларусі ў асноўным размаўляе на рускай мове. І галоўная прычына такой рэчаіснасці — блізкасць нашых моў, а таксама двухсотгадовая расійская дзяржаўнасць, савецкі перыяд русіфікацыі насельніцтва, ідэалогіі непрэстыжнасці „мужыцкай" гаворкі. Я быў, дарэчы, ля вытокаў распрацоўкі дзеючага Закона аб мовах.

І яшчэ тады, у 1988 годзе, пры, здаецца, моцнай і непахіснай савецкай уладзе не было прынцыповых разыходжанняў у тым, што дзяржаўнай мовай павінна быць адна — беларуская. Але было прадугледжана многімі спецыялістамі, што нельга ўводзіць яе ва ўсе сферы грамадскага жыцця сілай (у тым ліку і сілай закона, улады). Дубінкай у рай не заганіш.

І гэта пры тым, што ў той час партыйна-цэкоўскай цэнзуры ўсіх законаў аргументы было выказваць складана. Усё ж Беларусь уваходзіла ў склад СССР, і ні ў кога (па меншай меры, беларускіх кіраўнікоў) у думках не было аб яе выхадзе з брацкага Саюза. Разважалі так: дзяржаўная мова — беларуская, а мова міжнацыянальных зносін — руская, якая можа быць (а ў рэчаіснасці ёсць) другой афіцыйнай мовай.

Беларусь аб'явіла сябе яшчэ да распаду Саюза незалежнай дзяржавай. Уся нацыя адзіная ў адносінах да ідэі незалежнасці.

Давайце крыху паразважаем: калі б не было беларускай мовы — ці быў бы беларускі этнас, ці былі б наогул браткі-беларусы? Ці магла б адбыцца наша дзяржава?

І таму тут няма ніякіх сумненняў, што нацыянальная мова павінна быць дзяржаўнай, адзінай афіцыйнай мовай. А рускую ж гаворку ўсе мы шануем і паважаем не менш. Ды і размаўляем, яшчэ раз падкрэсліваю, пераважна на рускай ці на мясцовай трасянцы.

> **„Нацыянальныя сімвалы, як і чалавек, нараджаюцца любоўю, памяццю, вераю, надзеямі..."**

**Пра дзяржаўныя сімвалы.** Тут, мне здаецца, пераважаюць у значнай меры эмоцыі. Зноў жа — быў магутны Саюз, была яму адпавядаючая ідэалогія, былі і адпаведныя сімвалы суперзацэнтралізаванай сістэмы, былі і, як дзве кроплі вады, падобныя на іх сімвалы рэспублік-сясцёр з адпаведнымі атрыбутамі.

Так, распаўся (а хутчэй за ўсё разваліў) магутны Саюз. Усе яго былыя састаўляючыя разам з абвешчанай незалежнасцю лагічна памянялі і сімвалы дзяржаўнасці. І рабілася гэта не на прынцыпах адмаўлення бліжэйшага (і не вельмі лепшага) мінулага, на прынцыпах вяртання да больш аддаленай гісторыі, на прынцыпах адраджэння. Сімвалы заўсёды трымаюцца на векавой памяці, памяці не аднаго-двух пакаленняў людзей.

Усе мы добра памятаем той час, калі мянялася сімволіка. На арлы (расійскі, польскі) народ наш глядзеў, мякка кажучы, нераўнадушна. Вярталіся да сваёй гісторыі, да сваіх каранёў. І патрэбна ўсведамляць, што ідэя гэта і сімвалы — не Пазьняка, не БНФ. Гэта — наша гісторыя, гісторыя далёкіх продкаў. І тут нікуды не дзенешся. У свой час я таксама на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі выступаў з падтрымкай гэтых старадаўніх сімвалаў зямлі беларускай. Ды і што тут казаць, звернемся да энцыклапедыі. Вось што напісана ў сёмым томе (БелСЭ, выд. 1973 года, стар. 695). Паходжанне Пагоні дакладна не высветлена, коннік з мячом або кап'ём — з'ява пашыраная ў... геральдыцы сярэдневяковай Еўропы (пералічваюцца рускія і беларуска-літоўскія князі, якія карысталіся гэтым сімвалам). Пагоня была на 30 (з усіх 40) сцягах (харугвах) атрадаў, якія ўдзельнічалі ў Грунвальдскай бітве 1410 года. Паводле звестак храністаў XVI стагоддзя, малюнак „Пагоні" быў на харугвах Мінска, Навагрудка, Мсціслава, Віцебска, Смаленска, Вільні, Трокаў, Драгічына, Берасцейскага, Мсціслаўскага, Мінскага, Віленскага, Навагрудскага ваяводстваў. Полацкага і Рэчыцкага паветаў. З 1652 г. „Пагоня" — герб Слуцка, элемент гербаў Магілёва, Віцебска, Гарадка, Лепеля, Полацка, Рэчыцы, Суража, Чэрыкава... Адным словам, прыдумаць і „благословить" новую сімволіку нават за 100 гадоў наўрад ці магчыма. Тым больш на эмоцыях. Нацыянальныя сімвалы, як і чалавек, нараджаюцца любоўна, памяццю, верай, надзеямі і карпатлівай працай народнай.

**Аб эканамічнай інтэграцыі з Расіяй.** Прывяду, можа, наіўную паралель. А ці можа чалавек пражыць без сну? Адказ будзе адназначны. І Чыкін, і Пазьняк падкрэсляць адно і тое ж. Навошта тады пытаца аб гэтым у народа? Пасля вайны сярод студэнтаў хадзіў такі анекдот: студэнт гаворыць другому: „Слухай, давай згуляем у дурня..." А той у адказ: „А навошта? І так зразумела".

**І, нарэшце, аб роспуску Вярхоўнага Савета.** Калі мы хочам, маем намер і робім усё, каб стварыць сапраўдную дэмакратычную прававую дзяржаву, то ў Канстытуцыі, законах павінны быць „предохранители", якія абаранялі б грамадства ад узурпацыі адной галіны ўлады. І гэта трэба зрабіць цывілізавана, праз дэмакратычныя заканадаўчыя працэдуры. Упэўнены, што рэферэндум не для ўсіх выпадкаў з'яўляецца менавіта такой працэдурай.

*(„Народная газета" ад 6 мая 1995 года)*

## Sekcja Filologii Słowiańskiej KUL

Sekcja Filologii Słowiańskiej Katolickiego Uniwersytetu Lubelskiego organizuje już po raz 7 nabór kandydatów na I rok studiów w zakresie filologii białoruskiej, ukraińskiej i rosyjskiej. Nauka odbywa się w trzech grupach językowych: białoruskiej, ukraińskiej i rosyjskiej, a decyzja o wyborze określonej grupy, a tym samym danej filologii wschodniosłowiańskiej, powinna być podjęta już podczas rozmowy kwalifikacyjnej. Absolwenci filologii słowiańskiej uzyskują na dyplomie magisterskim tytuł magistra filologii słowiańskiej w zakresie: filologia białoruska, filologia ukraińska, lub filologia rosyjska. Pierwsi absolwenci z takimi właśnie tytułami ukończyli studia w roku 1994.

Przedmiotem studiów jest literatura, język i kultura narodów wschodniosłowiańskich; w kształceniu zwraca się także uwagę na korzenie chrześcijańskie Słowian Wschodnich. Nauczanie obejmuje więc oprócz tradycyjnego filologicznego ukierunkowania również kulturę słowiańską w ogóle i osobno każdego z narodów: rosyjskiego, ukraińskiego i białoruskiego, wiedzę o ich sztuce sakralnej, ikonach, muzyce, folklorze. Obok specjalizacji z zakresu historii literatury i języka podczas studiów można wybrać specjalizację translatologiczną - organizowaną od nowego roku akademickiego - przygotowującą do pracy tłumaczeniowej.

W trakcie studiów na roku II - IV odbywa się nauka języka angielskiego w grupie początkującej lub zaawansowanej.

Warunkiem przyjęcia na studia slawistyczne jest pozytywne zaliczenie rozmowy kwalifikacyjnej, która składa się z dwóch części: I - obejmuje zakres wiadomości z literatury polskiej z elementami historii i gramatyki języka polskiego; II - dotyczy ogólnej znajomości literatury i kultury danego kraju, który wybierze się jako przedmiot studiów, a więc Białorusi, Ukrainy i Rosji, głównie na poziomie szkoły średniej (choć pożądana jest znajomość lektur, wykraczających poza kanon obowiązkowy); rozmowa dotyczy też zainteresowań filologicznych kandydata, jego motywacji co do wyboru kierunku studiów. Odbywa się ona w wybranym przez kandydata języku: rosyjskim (ukraińskim lub białoruskim - przy czym kandydaci na filologię ukraińską i białoruską w przypadku nieznajomości tych języków powinni znać język rosyjski na poziomie szkoły średniej). Część rozmowy na tematy "pozafilologiczne" (wybór kierunku, motywacja itd.) może odbywać się po polsku.

Od 6 lat istnieje w ramach slawistyki filologia białoruska, która posiada pełny program kształcenia filologicznego. W tym roku również przewidujemy nabór 10 osób na I rok studiów.

**Sekcja Filologii Słowiańskiej Katolickiego Uniwersytetu Lubelskiego**

# ПАЛІТЫЧНЫ ГРАТЭСК

Толькі так можна назваць тое, што адбывалася ў Беларусі 14 мая г.г. А мелі быць першыя дэмакратычныя выбары ў гэтай дзяржаве. Фільм „Нянавісць" (чытайце на стар.5) толькі стаў пачаткам прапагандысцкай кампаніі прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі і яго расейскага акружэння супраць беларускасці і дэмакратыі. 11 мая падчас трохгадзіннага тэлевізійнага спектакля з удзелам прэзідэнта ён часта паўтараў слова „фашызм", што, паводле яго, адназначнае з парламентарным кіраваннем дзяржавай. Сябе прэзідэнт называў „дэмакратам" і „гарантам канстытуцыйнага парадку". Заявіў таксама, што не будзе больш супрацьставіцца волі народа, які прагне бачыць партрэты Лукашэнкі ўва ўсіх службовых памяшканнях, а некаторыя таксама ў прыватных.

13 мая ў праграме „Рэзананс" паказалі вынікі сацыялагічных даследаванняў, праведзеных савецкімі вучонымі ў апошніх днях перад выбарамі. Вынікала з іх адназначна, што 85% грамадзян Беларусі было за наданнем рускай мове статусу дзяржаўнай, 80% — за зменай нацыянальных сімвалаў, 85% — за замацаваннем сувязі паміж Беларуссю і Расіяй, 75% грамадзян давала прэзідэнту права разагнаць парламент, калі ён яму не спадабаецца. У тэлебачанні дэталёва тлумачылі, што трэба скрэсліць, каб атрымаліся станоўчыя адказы на вынесеныя прэзідэнтам пытанні. Не тлумачылі, што мае зрабіць чалавек, які выступае супраць прапаноў Лукашэнкі.

У суботу, напярэдадні выбараў, амаль цэлы дзень у тэлебачанні выступалі людзі з г.зв. „прэзідэнцкай вертыкалі" — афіцэры міліцыі, КДБ, кіраўнікі абласной адміністрацыі, якія гаварылі пра магутныя дасягненні ўлады ў рэфармаванні дзяржавы і гаспадаркі. У перапынках вяліся псеўданавуковыя дыскусіі, мэтай якіх было даказаць расісцкія, шавіністычныя і фашысцкія карані апазіцыйнага Беларускага народнага фронту. Дзень да рэферэндуму амаль зусім знікла з тэлебачання беларуская мова. Нейкія рускамоўныя, ці проста расейцы, расхвальвалі дзеянні прэзідэнта Лукашэнкі. Адным з найважнейшых яго дасягненняў абвясцілі паспяховае заканчэнне веснавой сяўбы.

14 мая камеры „беларускага" тэлебачання і мікрафоны радыёвяшчання накіраваліся ў выбарчыя камісіі, адкуль непасрэдна на тэлеэкран плылі выказванні ад народа. Тут, як пры Сталіне ці Брэжневе, была поўная згоднасць думак грамадзян і „бацькі народа". Амаль усе, якія выказваліся перад камерай заяўлялі, што не галасавалі на дэпутатаў у Вярхоўны Савет, бо іх не ведаюць, і што існаванне парламента іх не цікавіць. Усе таксама гаварылі, што зрабілі „трапны выбар" і далі станоўчыя адказы на ўсе пытанні прэзідэнта. Сам Лукашэнка прымаў удзел у выбарах, але дэманстрацыйна выкрасліў усіх кандыдатаў і пры нагодзе растлумачыў народу, чым павінен займацца парламент. А менавіта мае займацца заканадаўствам, а не ўмешвацца ў палітыку і змагацца за пашырэнне сваёй улады. Карацей кажучы, мае быць дэкарацыяй для дыктатуры. Інакш сябе паводзячы, парламент „груба парушыць права", за што прэзідэнт яго звычайна разгоніць. Такі палітычны парадак ужо раней устанавілі прэзідэнты Узбекістана, Туркменістана, Таджыкістана, Казахстана. Згодна з законам будуць яны кіраваць сваімі дзяржавамі да канца гэтага стагоддзя, а некаторыя нават даўжэй. Права на самадзяржаўе атрымалі яны падчас рэферэндумаў. На кожнага з азіяцкіх сатрапаў прагаласавала там звыш 99% грамадзян. Няма сумнення, што Беларусь Лукашэнкі пайшла шляхам гэтых „братніх народаў".

14 мая ў рэферэндуме прыняло ўдзел 64,5% грамадзян Беларусі. 83% выбаршчыкаў выказаліся за рускую мову як дзяржаўную, 75% адкінулі нацыянальны сцяг і герб і пажадалі мець савецкія сімвалы, 82% былі за цеснае супрацоўніцтва з Расіяй, 78% далі прэзідэнту права разагнаць парламент. Аб'яўленыя 15 мая вынікі былі амаль такія ж самыя, якія абвясцілі 13 мая, быццам бы паводле сацыялагічных даследаванняў.

Выбары новага Вярхоўнага Савета прайшлі таксама згодна з жаданнем Лукашэнкі. У першым туры дэпутацкія мандаты атрымалі толькі 19 кандыдатаў, у большасці старшыні калгасаў і супрацоўнікі адміністрацыі прэзідэнта. У 216 выбарчых акругах ніхто не набраў 50% галасоў і там адбудзецца другі тур з удзелам толькі двух кандыдатаў. У 27 акругах галасаваць прыйшло менш чым палова выбаршчыкаў і там вынікі аказаліся несапраўднымі. Пакуль што няма парламента і ўся ўлада ў рэспубліцы астаецца ў руках Лукашэнкі, хаця і новы Вярхоўны Савет, у якім большасць дэпутатаў будзе прадстаўляць калгасных феадалаў, не павінен перашкаджаць прэзідэнту працягваць „поўнае хвалы панаванне".

**Яўген Мірановіч**

# 49 гадоў не ведалі

*Працяг са стар. 1*

*— Я ўжо тады штудзіраваў у Варшаве,* — расказвае старэйшы брат, Хведар, — *і як я прыязджаў дадому, то Алёша ўсё прасіў забраць яго ў школу. Я абяцаў узяць яго ў музычнае вучылішча, бо бачыў, што ён да гэтага мае талент... Меўся ехаць бацька, але якраз быў тады хворы, дык Алёша сказаў: — Я за вас, тату, паеду...*

Аляксандру Бандаруку з Краснага Сяла памерла жонка, згарэла хата. Калі яго бралі з фурманкай, зачыніў тры свае дачкі ў свірне. Найстарэйшай было 13, наймалодшай — дзесьці два...

*— Мужчына з Ягаднік таксама без жонкі двое дзетак гадаваў,* — расказвае жанчына ў аўтобусе, — *то потым іх сляпы дзядуля выхоўваў. Прывезлі яго на працэс „Бурага". Дзедка падышоў блізка-блізка, рукамі вочы праціраў: „Пакажыце мне гэтага бандыта, што маё дзіця са свету звёў, што гэтых малеч асіраціў"...*

*— Мой брат ажаніўся* — кажа жанчына з Краснага Сяла, — *то зараз яго на Прусы вывезлі. Усё пераждаў, вярнуўся шчаслівы дахаты, узялі яго гэтыя...*

*— Нашага татку, Нікіфара Тадэвушука, узялі,* — гаворыць жанчына са Збуча, — *то ў хаце засталіся мама і мы, тры сястры. У хаце не было нават хлеба. Гаспадарка 16 гектараў, а чым яе будзеш рабіць, без каня. То нам і за ратая, і за касца прыходзілася адробліваць. Ой, пагаравалі мы...*

Сярод вазакоў не было родных Юзэфа Антанюка. Два дні пазней гэты сам атрад пацыфікаваў вёску Зані. Жанчыны выйшлі з каталіцкімі абразамі, са свечкамі. Чалавек са зброяй спытаўся ў суседкі, паказваючы маці Антанюка: „Яна каталічка?" — „Не, праваслаўная". Стрэліў у грудзі на вачах 11-гадовага хлопчыка. Юзік сігануў на гарод, упаў у баразну і праляжаў так некалькі гадзін...



*У гэтай жанчыны са Збуча забілі тут бацьку. Засталася яна з маці і з двума сёстрамі.*



*Магчыма, гэта адно з месцаў злачынства.*

* * *

Айцец Ян Раманчук над супольнай магілай у Кліхах сказаў: *Мы прыехалі сюды не з нянавісцю, не са злосцю. Я ведаю, што гэта нялёгка, але мы, як хрысціяне, павінны прабачыць. Але прабачыць, не значыць забыць. Мы ніколі не можам забыць па-зверску замардаваных нашых блізкіх, нашых бацькоў, мужоў, братоў. Памяць аб іх пакутах, аб смерці будзе ў нашых сэрцах жыць вечна!*

**Мікола Ваўранюк**
**Фота аўтара**

# З МІНУЛЫХ ДЗЁН

*(працяг; пачатак у папярэднім нумары)*

## Наваколле

На захад ад Кучкуноў знаходзілася вёска Яблынаўка, а побач яе — Баханы. За імі цягнуліся Слабада і Задвор'е. На ўсходнім баку была чыгуначная станцыя Коласава і засценак Адцэда, за якімі ў даваенны час прабягала дзяржаўная мяжа паміж Польшчаю і Савецкім Саюзам. У Адцэдзе жылі католікі, якія лічылі сябе беларусамі. Тут у час нямецкай акупацыі знаходзіўся нямецкі вайсковы гарнізон, які налічваў каля ста салдат. Быў таксама і пастарунак „Форсткаманда" — лясной аховы — з трыццаці функцыянераў. У ахове служылі мясцовыя беларусы, а яе камендантам быў немец Гоер, які ведаў польскую мову. Ахоўнікі былі апрануты ў нямецкія мундзіры і насілі зброю. У „Форсткамандзе" служылі пераважна маладыя людзі з Адцэды, між іншым: Антон Багдановіч і яго брат Кароль, Антон Калодзінскі, Язэп Мышкевіч, Станіслаў Сабалеўскі, Станіслаў Трачынскі, Язэп Жывіцкі, Доўнар, Лёсік, Варывоцкі ды некалькі іншых сяльчан, якіх прозвішчы зацерліся ў маёй памяці. Сярод функцыянераў пастарунка лясной аховы ў Адцэдзе былі таксама жыхары вёсак Кучкуны, Яблынаўка, Баханы і Слабада.

Нямецкія салдаты ў ходзе барацьбы з савецкімі партызанамі бралі жыхароў вёскі Адцэда ў „падводы", гэта значыць застаўлялі даваць фурманку з канём для транспарту салдат. Падчас сутычак немцаў з партызанамі загінула трое жыхароў Адцэды. Пасля вызвалення савецкія ўлады абвінавацілі жыхароў вёскі ў супрацоўніцтве з акупантамі. Памяталі таксама, што ў чэрвені 1941 года сяльчане сустракалі нямецкіх салдат хлебам і соллю.

Пасля заканчэння II сусветнай вайны шмат жыхароў Адцэды, пазбягаючы бальшавіцкіх рэпрэсій, падаліся палякамі і выехалі ў Польшчу. У выніку ў 1946 годзе насельніцтва вёскі перамяшалася. На месцы выехаўшых пасяліліся праваслаўныя беларусы — рэпатрыянты з Беласточчыны і жыхары навакольных суседніх вёсак.

Суседнюю Яблынаўку многае спалучала з Кучкунамі. Да 1935 года ў абедзвюх вёсках быў супольны могільнік, а да 1939 — адзін солтыс. Пасля вайны Баханы, Яблынаўку і Кучкуны аб'ядналі ў калгас імя Пушкіна.

У васьмі кіламетрах на паўднёвы захад ад Кучкуноў знаходзіцца раённы горад Стоўбцы, а ў дванаццаці кіламетрах у паўднёва-ўсходнім напрамку, за княжацкім лесам, распаложаны вёскі Акінчыцы і Мікалаеўшчына — родныя мясціны вялікага беларускага пісьмєнніка Кастуся Міцкевіча вядомага пад літаратурным псеўданімам Якуб Колас. Бацькі паэта — малазямельныя сяляне — паходзілі з Мікалаеўшчыны. Міхаіл Міцкевіч служыў у Акінчыцах лесніком у князя Радзівіла і менавіта ў лесніковай хаце ў кастрычніку 1882 года прыйшоў на свет будучы пясняр, які потым напіша:

Пры шляху шырокім,
Дзе стаіць камора,
Я на свет радзіўся
Пад глухі шум бору,
Позняю парою,
Восенню гнілою.
*(На раздарожжы)*

Сёння ў гэтых мясцовасцях знаходзіцца Філіял Літаратурнага музея Якуба Коласа, які ўключае сядзібу Міцкевічаў у Смольні, што на ўскраіне Мікалаеўшчыны і леснічоўку ў Акінчыцах.

*(працяг будзе)*

**Юстын Пракаповіч**

# Дзесяць гадоў у адным томе

Апошняй выйшаўшай друкам працай а. Рыгора Сасны з Рыбалаў з'яўляецца дадатак I да выдадзенай год раней „Wstępnej bibliografii chrześcijaństwa wschodniego. Druki polskojęzyczne okresu współczesnego". Улічвае ён матэрыялы, якія былі надрукаваны ў штомесячніку „Przegląd Prawosławny" (раней „Tygodnik Podlaski", „Prawosławie", „Orthodoxia") за 1985—1994 гады. Увесь спісак называе 3 531 публікацыю.

Склад бібліяграфіі вельмі празрысты. Публікацыі падаюцца асобна для кожнага года, прычым у дадзеным годзе выдзяляюцца яшчэ рубрыкі, прысвечаныя асобна жыццю Праваслаўнай царквы ў краіне і ў свеце (з 1991 года ўлічваюцца таксама дадатковыя старонкі: беларуская і ўкраінская, а з 1992 г. адсутнічае ўжо рубрыка прысвечана жыццю Праваслаўнай царквы ў краіне. Хутка адшукаць патрэбныя матэрыялы памагаюць два паказальнікі: імянны і геаграфічных назваў. Спісак публікацый, папярэджаны кароткай прадмовай а. Генрыка Папроцкага (у двух моўных версіях: польскай і англійскай). На апошняй старонцы вокладак змяшчаецца артыкул на тэму генезісу Праваслаўя і яго развіцця ў візантыйскай імперыі.

Згаданы томік можна было б палічыць ідэальным, узорным для іншых такога тыпу выданняў, каб не карэктарскія памылкі. Усё ж яны не перашкаджаюць пахваліць друкарню „Orthdruk" за элегантнае выданне. Штомесячнік „Przegląd Prawosławny" атрымаў вельмі прыгожы падарунак на свае дзесятыя ўгодкі.

**Пётр Байко**

# „Нянавісць"

10 мая вечарам беларускае тэлебачанне паказала фільм Юрыя Азаронка і Уладзіміра Гасцюхіна „Нянавісць". Твор гэты, побач творчасці савецкіх кінематаграфістаў трыццатых гадоў, смела можа быць прыкладам прапаганды, якая не звяртае ўвагі ні на факты, ні на маральнасць, каб толькі дасягнуць вызначаную ўладай мэту. Мэтай фільма „Нянавісць", які дэманстраваўся на тры дні перад выбарамі і рэферэндумам, было кампраметаванне дэмакратычных сіл у Беларусі, а перш за ўсё Беларускага народнага фронту.

Фільм пачынаецца ў Курапатах, дзе Пазняк, прамаўляючы да натоўпу з бел-чырвона-белымі сцягамі, гаворыць пра ляжачыя там ахвяры сталінскіх рэпрэсій. Зараз пасля савецкіх ці расейскія „вучоныя" прадстаўляюць „доказы", што некалькі соцень тысяч расстраляных у Курапатах людзей — гэта не ўсе беларусы, але ёсць там таксама грамадзяне Аўстрыі, Францыі, Польшчы. Паводле савецкіх вучоных лес напоўніўся трупамі падчас нямецкай акупацыі, а расстрэльвалі „сваіх" і „чужых" беларускія нацыяналісты, якія насілі на рукавах „Пагоню" і бел-чырвона-белыя павязкі. Пачатак быў добры, але паводле сталінскай меркі таксама і памяркоўны. Далей ужо подласць аўтараў фільма, кіраўніцтва тэлебачання і дзяржаўнай улады, па заказу якой гэты прапагандысцкі матэрыял рэалізаваўся, не мела ніякіх абмежаванняў. Беларускія нацыянальныя сімвалы паказвалі выключна так, каб спалучаліся яны з фашызмам, з нямецкай акупацыяй, а тыя, якія адносяцца да іх з пашанай, былі пастаўлены на адным узроўні з эсэсаўцамі, якія расстрэльвалі жыхароў беларускіх вёсак. Напераменна на экране з'яўляліся пад знакам „Пагоні" то беларускія паліцыянты саракавых гадоў у прысутнасці нямецкіх афіцэраў, то лідэры БНФ. Фамантаж і каментарый не пакідалі ніякіх сумненняў, што сённяшнія нацыянальныя сімвалы — гэта выдумка фашыстаў. Дарэчы, самым выдатным дасягненнем мастацкай творчасці савецкіх дакументалістаў з Менска было паказанне Радаслава Астроўскага ў прысутнасці афіцэраў гестапа, які прамаўляў голасам Зянона Пазняка — лідэра сучаснай беларускай апазіцыі. Гэта напэўна астанецца таямніцай савецкай навукі і тэхнікі, у які спосаб прамаўляючаму ў 1943 годзе чалавеку ўклалі ў вусны голас і словы сучаснага палітыка. У пэўны момант нават прэзідэнт ЗША Біл Клінтан заблытаўся ў рады фашыстаў і стаў таварышам Гітлера і Пазняка.

Вульгарныя вобразы з жыцця мастацкага асяроддзя паказаны былі як сімвал дэгенерацыі грамадства ў выніку спланаванай на Захадзе палітыкі, накіраванай на знішчэнне славян і іх культуры. Доўга-доўга рускамоўны мастацтвазнавец Андрэй Савіцкі тлумачыў, што творчасць мастакоў суполкі „Пагоня" гэта духовая пустата з элементамі сатанізму. Асаблівую ўвагу звярнуў ён на карціны Аляксея Марачкіна, прыхільніка БНФ, якія паводле аўтараў фільма нічога сабой не прадстаўляюць, а толькі дэмаралізуюць маладое пакаленне.

Пацярпела таксама беларуская паэзія. Малады паэт Славамір Адамовіч прадстаўлены быў як чалавек выхаваны ў шавіністычнай традыцыі. Пасля паказалі яго як эратамана і будучага тэрарыста. Анатоль Сыс і іншыя беларускія паэты, якія трапілі ў фотааб'ектыў савецкага кінематаграфіста — гэта нацыяналісты, наркаманы і п'яніцы.

Найбольш агідны вобраз прадстаўлялі сабой рок-музыканты, якія выступілі на мітынгу БНФ. У сучасны відэазапіс былі ўманціраваны фрагменты старых нямецкіх фільмаў, прадстаўляючых Мінск у гады гітлераўскай акупацыі. У рытм сучаснай рок-музыкі танцавалі паліцыянты ў нямецкіх уніформах з „Пагоняй" на рукавах. І тады, і сёння на мітынгу апазіцыі віднела тая самая сімволіка. Пасля такога фільма не цяжка грамадзяніну Беларусі пераканацца ў тым, што бел-чырвона-белы сцяг і „Пагоня" — гэта сімвалы фашыстаў і здраднікаў. Ці за такія сімвалы калі-небудзь выкажацца чалавек, які 9 мая ішоў у Менску з партрэтам Сталіна ў руках, а віталі яго каменны Ленін і жывы Лукашэнка?

**Я. М.**

P.S. Фільм гэты, быццам бы па жаданні тэлегледачоў, паказалі яшчэ раз 12 мая.

# Зорка

## старонка для дзяцей

# Беларуская песня'95



*Дзяўчаты з Гарадка праспявалі дзве песні: "Жураўлі" і "Бай стары" і атрымалі першае месца. Чароўна спяваюць гэтыя дзяўчаты, быццам сапраўдныя прафесійныя харысткі.*

*Юліта Вяршко — вучаніца IV "е" класа бельскай "тройкі" — стала лаўрэаткай у катэгорыі старэйшых класаў. Дзяўчынка спявае ў "Журавінках". Віншуем Юлітку з усяго сэрца!*



*Нараўчанскія "Душкі з пушкі" заваявалі найбольш узнагарод. Да конкурсу рыхтавала іх інструктар Аліна Саевіч. Вакальна-танцавальная група працуе ў Доме культуры. "Душкі" неўзабаве атрымаюць новыя ўборы з Менска.*

11 мая г.г. у Бельскім доме культуры адбыўся фінальны тур конкурсу дзіцячай песні. На сцэне выступілі вучні пачатковых школ з Гарадка, Чаромхі, Кляшчэль, Бельска, Орлі, Нараўкі, Кленік, Махнатага, Ласінкі. Удзельнікаў конкурсу ацэньвала журы ў складзе: спявачка і кіраўнічка дзіцячых груп пані Аля Дубец, дырыжор бельскіх „Васілёчкаў" пані Аліна Нігярэвіч, рэдактар дзіцячай радыёперадачы пані Яніна Чэрнякевіч і інструктар беларускіх хораў спадар Віктар Маланчык.

Першыя месцы заваявалі:

— у катэгорыі салістаў: Аня Сухадола і Паўліна Місяюк з Нараўкі, Юліта Вяршко з бельскай „тройкі";

— у катэгорыі малых форм (дуэты, трыо, квартэты): дуэт з Нараўкі — Аня Сухадола і Паўліна Місяюк;

— у катэгорыі вакальна-танцавальных груп: нараўчанскія „Душкі з пушкі" і бельскія „Журавінкі";

— у катэгорыі песенных груп і хораў: дзяўчаты з Гарадка.

„Зорцы" падабаліся ўсе выступленні дзяцей. Разам з імі перажывала яна іх хваляванні. А пасля гэтага прыемна было пагаварыць з дзецьмі, іхнімі настаўнікамі і інструктарамі. Сярод спевакоў было многа чытачоў дзіцячай старонкі. Вучні IV „е" з бельскай „тройкі" (якіх пісьмо друкуем у гэтым нумары) выступалі на сцэне. Аж 13 дзяцей з гэтага класа спяваюць у „Журавінках". Два хлапчукі, Кшысек Раманюк і Пшэмак Міхальчук, гулялі ў катоў, пра якіх спявалася ў песні. Іншыя дзеці з гэтага класа апладзіравалі сваім сябрам. Разам з імі была іхняя настаўніца Валянціна Бабулевіч. „Зорка" сустрэла таксама іх сяброў з III „е" (што ў бельскай „тройцы") а таксама вучняў з Махнатага, Нараўкі, Чыжоў, Орлі. Прыемна было пазнаёміцца з з другакласніцай Паўлінкай Пашко з Ласінкі. Дзяўчынку падрыхтавала настаўніца рэлігіі. З Чаромхі прыехала адзінаццаць дзяцей. Пані Барбара Козуб, іхняя інструктарка, іграла на піяніна. Дзеці выступілі ў многіх катэгорыях і вельмі добра паказаліся. Самыя цікавыя, сучасныя песні праспявалі дзяўчаты з Орлі. Уладзімір Сахарчук, настаўнік музыкі, іграў на гітары. Разам выканалі „Песню вясёлых жабракоў" і „Не кахай мяне". Цікава паказаліся дзеці з Кленік. Яны заспявалі вяснянку. Гэтая песня гарманізавала з парой года. І яшчэ адна цікавінка. Ніхто з удзельнікаў не выступаў у народным адзенні. У гэтым годзе панаваў класічны ўбор, белачорны касцюм. Крыху шкада, што дзеці спявалі пра „рабят" або фальклор з неакрэсленага рэгіёна. Атрымоўвалася ўражанне, што некаторыя ўдзельнікі не разумелі сваіх песень. Тое самае было з публікай. Гэта павінны ўлічыць усе ўдзельнікі будучых конкурсаў. У іншым выпадку праспяваныя на аглядзе песні забудзе не толькі публіка, але і самі выканаўцы.

**Ганна Кандарцюк**
**Фота аўтара**



*Дзяўчаты з Орлі.*



*Сярод публікі — пастаянныя паклоннікі дзіцячай творчасці: настаўніца Ніна Адамюк з дачушкай Аняй. Яшчэ нядаўна спадарыня Ніна рыхтавала да конкурсу дзяцей з Ласінкі і Чыжоў.*




**Прывітанні Табе, „Зорка"!**

Пішуць Табе вучні IV „е" класа бельскай „тройкі". Наш клас налічвае 30 вучняў — 16 дзяўчынак і 14 хлопцаў. На ўроках беларускай мовы разам з настаўніцай Валянцінай Бабулевіч мы часта чытаем „Зорку". Цябе, „Зорка", мы вельмі палюбілі. Любім удзельнічаць у тваіх конкурсах. Дзве асобы з нашага класа атрымалі нават узнагароды, з якіх вельмі цешацца. На апошніх занятках мы праводзілі ўрок беларускай загадкі. Вучні падрыхтавалі вельмі многа цікавых задач. Не ўсе загадкі мы змаглі адгадаць. Самыя цікавыя рашылі даслаць у „Зорку".

Напішы „Зорка", ці яны Табе спадабаліся. Вельмі сардэчна запрашаем Цябе да нас у госці.

**Вучні класа IV „е"**
**Пачатковая школа н-р 3**
**у Бельску-Падляшскім**

## Загадкі

**1.**

Ён прысмакаў з'еў нямала
А калі харчоў не стала,
Лапу смокчучы, заснуў,
Ледзьве не праспаў вясну.

**2.**

У ваду ныраe смела.
Хатку ён будуе ўмела.
Пад вадой і на вадзе
Будаўніцтва ён вядзе.

**3.**

Даўгавухі і касы,
Скача без аглядкі
Ад ваўка і ад лісы.
Хто знайшоў адгадку?

**4.**

Днём на двары ходзіць,
раніцай людзей будзіць.

**Ад рэдакцыі:**

Дарагія сябры, усе Вашыя загадкі спадабаліся не толькі „Зорцы" але і апытаным дзеткам з Беластока. Думаю, што і нашыя чытачы могуць адгадаць вашыя загадкі. Тады чакаем пісьмаў ад дзяцей з усіх школ. Цікава, ці яны разгадаюць?

**Зорка**

## РУКІ МАЁЙ МАЦІ

Бяру я руку маёй маці
І ласкава сціскаю ў сваіх руках.
Так лампаду бяруць, каб у хаце
Уначы пасвятлела па ўсіх кутках.

Пажоўклая скура, сухая,
Пазногці патрэсканы. Але, аднак,
Я ўсю цеплыню адчуваю.
У пальцах натруджаных — персіка
смак.

І маці ў здзіўленні заўсёдным
Уважна ўглядаецца ў вочы мае:
„Ты, пэўна, сынок мой, галодны?"
Ніколі адвагі ў мяне не стае —

Сказаць, як люблю яе моцна!
А мама руку адхіляе цішком:
Збаночак, як круглае сонца,
Узнімае і поіць мяне малаком.

**Марыс Карэн**
**бельгійскі паэт**

## Лялечны тэатр і экалогія

Дарагія сябры! Сёння раскажу вам пра цікавае мерапрыемства — агляд лялечных тэатраў. Выступілі ў ім многія дзеці з Беластока, Монек, Чорнай-Беластоцкай і Боцькаў. Усё гэта адбылося ў Беластоку 28 красавіка г.г. Мерапрыемства адрознівалася ад беларускіх аглядаў перш за ўсё тым, што вялі яго самі дзеці, якія пры нагодзе някепска гулялі і прыцягвалі да забавы дзіцячую публіку. Дапамагала ім пасяброўску пані Зуля Бжэзінська. Шкада, што сярод удзельнікаў не было беларускіх груп. Я перакананa ў тым, што вы змаглі б паказацца не горш, чым вашыя польскія аднагодкі.

„Зорка" пасябравала з беластоцкай групай „Бай". І ведаеце, многія дзеці чулі пра нашую дзіцячую старонку. Ад іх маеце сардэчныя прывітанні.

„Бай" дзейнічае ў школе н-р 13. Вядзе яго пані Галіна Елень. У групе 11 дзяцей. На аглядзе паказалі яны п'есу паводле казкі Ханса Крысціяна Андэрсена „Свінапас". Разам з дзецьмі выступаў папугайчык. Іхняя тэатральная прапанова вельмі мне падабалася.

Прыемна было сустрэць на аглядзе дзве групы з Боцькаў — „Лясныя гномікі" з Пачатковай школы і „Праменьчыкі" з Дома культуры. „Праменьчыкі" паказалі вельмі павучальную сцэнку пад загалоўкам „Сэрца маці". Гэту п'есу павінны паглядзець усе мамы, якія кураць цыгарэты, п'юць многа кавы, а пазней наракаюць, што ўсё іх баліць. Наогул усе прадстаўленыя ў конкурсе сцэнкі пераконвалі дзяцей, што варта шанаваць прыроду, сваё здароўе, дбаць пра зубы і піць зёлкі. Усе прапановы эколагаў дзеці ўспрымалі вельмі сур'ёзна. На перапынках ніхто не браўся за шкодныя для здароўя ласункі.

**Ганна Кандрацюк**

## ДА ДНЯ МАЦІ

*Найлепшыя пажаданні ўсім Мамам выказваюць "Зорка" і Андрэй Лаўранюк — вучань II класа Пачатковай школы ў Храбалах.*

## Вершы Віктара Шведа

### МАМІНА СВЯТА

Гарацъ вачаняты  
Аганькамі прама,  
Сёння маем Свята  
Любімае МАМЫ.

Прымі, дарагая,  
Віншаванні, кветкі.  
Шчасцейка жадаюць  
Табе сёння дзеткі.

Табе кажам: — Дзякуй!  
За чуллівасць, ласку,  
За працьму ўсялякіх  
МАЦІ абавязкаў.

Будзем мы вучыцца,  
Асвойваць праграму,  
Каб ты ганарыцца  
Магла намі, МАМА.

### НАШАЯ МАМА

Настрой вясёлы ў нашай хаце  
Поўніцца дзетак галасамі.  
Сёння нязвыклае ў нас Свята —  
Свята каханай нашай МАМЫ.

Найболыш гаротная на свеце,  
Што часта гоніць сіл астаткам  
Каб ашчаслівіць свае дзеці  
Чуллівая надзвычай МАТКА.

Яна яшчэ пасля турботы  
І прылашчыць і прытуліць  
Да сэрца родную істоту.  
Колькі ж сардэчнасці ў МАТУЛІ!

Як жа бясцэннай і харошай  
Матулі кожны з нас адплаціць?  
Цяжкую непасільна ношу  
Бярэ на свае плечы МАЦІ.

## ПРЫГОДЫ МІШКІ ПІК-ПІК

**Перад Маміным днём**

Мышка Пік-Пік якраз прыбірала ў сваёй норцы — татавым памазком пераганяла смецце з аднаго кутка ў другі, на яшчэ большую кучку скурак, агрызкаў і шматкоў паперы. Трошкі спазнілася з веснавымі парадкамі — вось ужо канец мая, зараз і Дзіцячы дзень — найбольш урачысты дзень Веранічкі і Максімкі, а тады шмат чаго добрага перападзе і Пік-Пік! Трэба зрабіць месца ў норцы на ласункі, каляровыя абгорткі з-пад цукерак і іншае дабро. Трэба будзе яшчэ сёння абклеіць сцяну за ложкам шпалерамі — абгорткамі ад жавачак, партрэтамі качура Дональда і Мікі-Маўса — будзе прыгожа, калярова, акуратна...

Раптам у норцы пацямнела. Аб падлогу зашкрабаў кіпцюр Пепіты, а пасля перад уваходам заружавеў яе нос.

— Пік-Пік, у мяне ёсць да цябе справа, вылазь!

Мышка выцерла лапкі ў фартушок, развязала яго з жывоціка і кінула на пустую пушачку з-пад запалак, што была ў яе за крэсла.

— Ну, чаго табе трэба? — урэшце выхінулася са свае кватэры. — Што тут робіш?

Пепіта ляжала на дыване, адкінуўшы заднія лапы, і цэрла лапай вуха.

— Думаю.

— Бачу. І так на сухую пыску? Маем так разам думаць?!

— Ідзі ў кухню, там ляжыць мой кавалак пірага.

— Просты пірог? З разынкамі?.. Пэўна засухі для цябе ці нясмачны, калі ты яго не хочаш?

— Не, якраз выдатны, частуйся. Я рашыла пахудзець. Тоўстае цела цяпер не ў модзе. Табе, Пік-Пік, усё адно, у цябе цяпер ніякага кавалера няма, рэдка ходзіш на вуліцу, а я люблю падабацца. Бяры, ідзі, еш на здароўе! Я зусім яго не шкадую, таго піражка... — прамурлыкала котка, прыплюшчваючы вочы.

— А чаму ты думаеш, што я не люблю падабацца? Худзець? — які мне ў гэтым інтарэс! Я страчу ўвесь свой шарм, як кажа цёця Надзя, калі скіну з сябе хоць грам вагі!

Тут мышка задумалася, доўга пацірала лапкі, потым стрымліваючыся пайшла ў кухню, адламала кавалачак пірага, выкалупала разынкі, з'ела іх з развагай, а потым хутка скончыла пірог, да апошняй крышынкі.

Котка ўжо ляжала на баку, касавурылася на свае доўгія белыя вусы, павявала пушыстым хвастом.

— Ну, я думаю, што ты нешта ад мяне хочаш? — аблізалася Пік-Пік.

— Ну, проста так, хочацца паразмаўляць. У такую спёку цяжка адной думаецца. Ну, як маем аддзячыць нашай маме за наш Жаночы дзень? Так мы ўсе тады добра наеліся, што тыдзень успаміналі, асабліва тата. А заўтра ж — Мамін дзень!

— Менавіта нашай мамы?

— Усіх мамаў у свеце. І трэба нам нешта прыдумаць, каб не з пустымі лапкамі ісці. А ты ж не любіш разважаць на пусты жывот, дык вось я ад свае пыскі адняла такі смачны пірог, пачаставала цябе, каб нам нешта разам прыйшло ў галаву...

— Купіць мы маме нічога не купім, бо грошай у нас няма, вядома. Я зноў намалюю мамін партрэт, а ты заспяваеш песню.

— Я песні пра маму не ведаю ніводнай. Не буду ж спяваць татаў верш...

— Будзеш імправізаваць: „Мяўмяў-мяў-пік-пік...". Тата купіць торт, баба Галя наробіць пончыкаў, ірыскаў, нагатуе ўсяго іншага, дзеці паставяць тэатр... Ой, як баба Галя смачна корміць... Класны будзе Мамін дзень!

— Пік-Пік, а баба Галя — яна ж таксама мама, толькі маміна! Прыйдзецца мне два разы імправізаваць „мяў-мяў-мяў", а табе маляваць другі партрэт! Толькі не памыліся, адразу падпішы, хто ёсць на малюнку!

— Што ж, жыццё сучасных мастакоў не з лёгкіх! — уздыхнула мышка і папялася ў норку. З-за татавага пантофля дастала белы кардон, узяла ў лапку сіні аловак і пацягнула першую рыску.

**Цётка Міра**

## ПЕСЕННАЯ ПАЛОСКА

## МАМАЧКА

*Верш Леаніда Пранчака*  
*Музыка Зміцера Яўтуховіча*

Словы цёплыя знайду  
І пра маму верш складу.  
Мілая, пяшчотная,  
Мамка мая родная.  
Мамка мая родная...

Прыпеў:  
Мама, мама, мамачка,  
Я спяваю тоненька.  
Я спяваю тоненька.  
Мама, мама, мамачка,  
Ласкавае сонейка,  
Ласкавае сонейка.

Словы шчырыя знайду  
І пра маму верш складу.  
Светлая заранaчка,  
Светлая заранaчка,  
Дарагая мамачка.

Прыпеў.

# Нядзеля поўная ўражанняў

Пачаўся май. Чалавека цягне на прыроду. А калі ты ў дадатак жывеш у сэрцы Белавежскай пушчы, было б проста грэхам не заглыбіцца ў гэты час у яе нетры.

Я, Барыс Руско і Георгій Валкавыцкі дамовіліся зрабіць даўжэйшую прагулку ў першую надзелю мая. Дамовіліся сустрэцца а 10 гадзіне, але мае сябры не стрымалі і з'явіліся ў мяне на паўгадзіны раней.

Едучы на веласіпедах вуліцамі Белавежы, мы часта сустракалі аўтамабілі з турыстамі. Сонечнае, цёплае надвор'е спрыяла наведванню пушчы і ва ўсіх выклікала радасны настрой.

І, вось, мы ўжо на Каралеўскай дарозе. Дарога брукаваная, таму трымаемся сцежкі, што на пабочыне. Непадалёку дзяржаўнай мяжы паварочваем убок, у 551 квартал. Па дарозе сустракем старыя дубы. Аж дзіўна, што зберагліся яны перад піламі дрывасекаў. Некаторыя дрэвы пазначаны лічбамі. Гэта адборныя экземпляры, якіх насенне перахоўваецца ў „банку генаў" на выпадак пагаршэння пасяўнога матэрыялу (выкліканага, вядома, цывілізацыйным прагрэсам), які б паставіў пад пагрозай існаванне канкрэтнага віду дрэва. Гэтай справай займаецца д-р Адольф Корчык з Лабараторыі натуральных лясоў Інстытута лясных даследаванняў у Белавежы.

### Мележ

Захапляючыся прыгажосцю лясных старажылаў, спыняемся ў сярэдзіне круга, абмежаванага зямным насыпам. Георгію Валкавыцкаму месца гэтае асацыіруецца з язычніцкімі абрадамі, пра што ён начытаўся прафесіянальнай літаратуры яшчэ мінулым годам. Прабуем крыху рыць галінкамі ў зямлі, бо мяркуем, што тут некалі выпальвалі драўляны вугаль. І калі ўжо трацім надзею на якую-небудзь знаходку, Георгію трапляецца даволі вялікі кусок вугалю. Такім чынам не маем сумненняў, што тут сапраўды знаходзіўся мележ. Найдалей у канцы XVIII ст. Знойдзены кавалак вугалю хаваем у карэннях дрэва, а пры нагодзе перадамо яго ў галерэю-музей Тамары і Сяргея Тарасевічаў.

### Блудная гара

Накіроўваемся на гару, што высіцца побач і праходзім праз нейкую дзіўную дарогу. Барыс Руско паясняе, што гэта палатно лясной вузкакалейкі, якую ўжо ліквідавалі і знялі рэйкі. Уваходзячы на гару адчуваем сябе лёгка. Гара ўзвышаецца на 183,6 м над узроўнем мора і на 10 сантыметраў перавышае найбольш вядомую ў польскай частцы пушчы гару Баторыя, што знаходзіцца побач шашы Гайнаўка—Белавежа. Краявід на гары прыгожы. Цешымся, пакуль не ўбачым, што з аднаго боку яе падкопваюць, выбіраючы гравій. Як гэта пагадзіць са статусам Белавежскай пушчы як ахоўваемай ландшафтнай зоны — проста нельга зразумець! На нашу думку, тут выразна парушаецца закон.

Дакладна разглядаем гару. Яе парастаюць сосны, дубы. Тыя апошнія маюць схільнасць да разгаліноўвання ад самай зямлі. Паміж дрэвамі відаць даволі вялікія гранітныя камяні. У нейкі момант Барыс вырашае „абмераць" гару. Атрымаўся наступны вынік: шырыня — 50 крокаў, даўжыня — 120.

Нечакана паміж намі ўспыхае спрэчка наконт напрамкаў свету. Я і Георгій сцвярджаем адно, Барыс — другое. Потым выявілася, што рацыю ўсё-такі мелі мы. Але зблыталіся так, што ледзь знайшлі свае веласіпеды, пакінутыя ля дарогі. Пастанаўляем, што з таго моманту гару будзем называць Блудняй.

З нейкім маруджаннем пакідаем гэты надта прыгожы закавулак пушчы. Перад тым, як выедзем на Пружанскую дарогу (на ёй палажаны асфальт), Барыс паказвае нам чароўнае, падмоклае лясное „вочка". Па слядах звярыны відаць, што тут іх вадапой.

### Мінулае Грудак

Уязджаем у Грудкі — лясны пасёлак. Георгій звяртае маю ўвагу на два будынкі ў старанямецкім стылі (драўляная канструкцыя перакладзеная цэглай). Гэта адзіны прыклад такога будавання на нашай тэрыторыі. Будынкі збудавалі немцы ў І сусветную вайну дзеля абслугоўвання лясной вузкакалейкі.

Тартак, збудаваны немцамі, знаходзіўся направа ад дарогі ў Белавежу, яшчэ перад чыгуначным палатном. Пляц, дзе трымалі піламатэрыялы, знаходзіўся з левага боку дарогі. А на другі бок чыгункі быў футбольны стадыён і крыху далей цір.

— Мы, хлапчукі, калі працягваліся нейкія спаборніцтвы, — гаворыць усміхаючыся Георгій, — уваходзілі на навакольныя дрэвы і назіралі за ходам ігры. Найбольш смеху было, калі выступала яўрэйская каманда „Макабі" з Ружаны.

### Крывасмокі пушчы

Даязджаючы да Крыжоў (раней вёска, зараз адзін з кварталаў Белавежы), на правым баку шашы ўпадае нам у вочы пляц з гатовымі піламатэрыяламі. Тут знаходзіцца прыватны тартак, які пачаў працаваць у мінулым годзе. Такія тартакі ў апошні час шчыльна абляпілі ўсю пушчу, высмоктваючы з яе найвышэйшага сорту драўніну. Уласнік тартака будуе сабе побач нешта накшталт палацыка. Яму гэта па кішэні, а што пушчы вокамгнення аграбляецца з найпрыгажэйшых дрэў хіба ні яго, ні яму падобных не ўзрушае. Капіталізм выразна не служыць пушчы.

### Новае месца моцы

Па дарозе заязджаем да Сяргея Тарасевіча прывітацца. Той, карыстаючыся нагодай, прапануе паехаць яговым „Фіацікам" у адно месца ў пушчы, якое нас напэўна зацікавіць. І, сапраўды, так сталася!

Сяргей паказаў нам новае месца моцы, на якое нядаўна натрапіў зусім выпадкова. Яно знаходзіцца ў 496 квартале, непадалёку ад скрыжавання Ягелонскай і Сініцкай дарог. У гэтым месцы ёсць невялічкая палянка. На ёй ляжаць раскінутыя ў некалькі кругоў камяні. Наймацнейшае праменяванне адчуваецца каля маладзенькай вольхі. Яго вылавіў нават Георгій, які да гэткіх спраў ставіцца скептычна.

Калі мы пахвалілі свайго сябру за знаходку, той пастанавіў паказаць нам у 457 квартале альсовае „вочка" і курганы. Сам лес тут прыгожы, расце шмат старых дрэў. Ідэальнае месца для адпачынку.

Вярнуліся мы дамоў з мноствам уражанняў. Паспелі яшчэ перад навальніцай, якая неўзабаве расхадзілася над Белавежай.

**Пётр Байко**

# І Алімпіяда беларускай мовы

5 мая 1995 г. ў Варшаўскім „Доме дружбы" дзеля падсумавання вынікаў І Алімпіяды беларускай мовы сустрэліся ўдзельнікі, настаўнікі, спонсары ды прадстаўнікі асветных улад. Першае такога тыпу мерапрыемства адбылося ў бягучым годзе па ініцыятыве Таварыства „Польшча--Усход", хаця — як падчас варшаўскае сустрэчы адзначыў гнаровы старшыня БГКТ Аляксандр Баршчэўскі — Таварыства ўжо больш чым 20 гадоў таму звярталася ў Міністэрства асветы з просьбай сарганізаваць алімпіяду беларускай мовы. Усе аднак просьбы вырашаліся адмоўна і толькі ў гэтым годзе ўдалося сарганізаваць І Алімпіяду. Гэта першае такога тыпу мерапрыемства не толькі ў Польшчы, але ва ўсім свеце, таму, што ў Рэспубліцы Беларусь таксама ніхто яшчэ не падумаў, каб арганізаваць алімпіяду беларускай мовы для моладзі.

І Алімпіяда беларускай мовы праходзіла ў трох этапах, а прыступіла да іх 44 асобы, з якіх 12 дайшло да цэнтральных спаборніцтваў. 7 асоб аказаліся лаўрэатамі І Алімпіяды беларускай мовы і — калі згодзяцца сенаты вышэйшых навучальных устаноў — будуць яны зволнены з экзамена па замежнай мове. Усе лаўрэаты — з Бельскага ліцэя, таму што Гайнаўскі проста не прыступіў да фінальнага тура.

Падсумоўваючы вынікі, старшыня Галоўнага камітэта І Алімпіяды Аляксандр Баршчэўскі адзначыў, што ўзровень быў сапраўды вельмі высокі, а падрыхтаваны моладзю працы былі вельмі спелымі. Як кіраўнік Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта ён запэўніў, што ўсе лаўрэаты будуць прынятыя без экзаменаў на беларускую філалогію. Працягваць адукацыю ў Рэспубліцы Беларусь запрашаў саветнік беларускага пасольства ў Польшчы Мечыслаў Часноўскі, які ад імя ўрада РБ выказаў прызнанне для ідэі алімпіяды. Усе прамоўцы, якія выступалі падчас варшаўскай сустрэчы, звярнулі ўвагу на тое, што правядзенне алімпіяды павінна паднесці прэстыжнасць беларускай мовы, не толькі ў беларускім асяроддзі, але таксама ў вачах палякаў. Сапраўды трэба было б сабе гэтага жадаць, а таксама і таго, каб беларускі алімпійскі рух прычыніўся да ажыўлення навучання беларускай мовы на Беласточчыне.

На заканчэнне сустрэчы ўдзельнікі І Алімпіяды беларускай мовы атрымалі ад спонсараў узнагароды (у большасці кніжкі, сярод якіх была таксама беларуская літаратура), верш Віктара Шведа прачытала лаўрэатка конкурсу „Сцэнічнае слова", а калектыў „Чарамшына" з Чаромхі праспяваў некалькі песень. Шкада толькі, што нават песню „Касіў Ясь..." праспявалі яны... па-украінску.

У другой частцы дня арганізатары запрасілі моладзь на экскурсію па Варшаве, а вечарам — у Вялікі Тэатр на балет.

А вось лаўрэаты сёлетняй Алімпіяды:

1. Яраслаў Сахарчук
2. Анна Дэмянюк
3. Барбара Мушыц
4. Эва Адзіевіч
5. Эдыта Керцуль
6. Кацярына Добаш
7. Аліна Каляда

**Я-ук**

# Адкрыццё XIV Фестывалю царкоўнай музыкі

*Працяг са стар. 1*

цягнікі ў Бельск і Белавежу, паржавелі і зарастаюць травой. У расписанні паяздоў аж шэсць іх у Белавежу і тры ў Бельск — гэта „цягнікі", „чыгуначнай аўтобуснай камунікацыі". Так гэта называецца. Нямнога лепей і з другога боку вакзала: пасажырскі цягнік у Седльцы і тры таварныя саставы — па ўсёй імавернасці — пустыя. Народу на станцыі — што пальцаў на адной руцэ. Не відаць інфармацый пра Фестываль — бо і для каго. Вяртаюся ў Сабор. Яшчэ паўгадзіны да адкрыцця Фестывалю. Усе седзячыя месцы ўжо занятыя: жыхары Гайнаўкі не такія разявы, як я — ведалі калі трэба прыходзіць. Стоячы ля ўвахода, пацяшаюся аднак, што не ўсе: людзі прыходзяць і прыходзяць і запаўняюць храм. І ўсе ахвотныя змясціліся. Дарэчы, арганізатары прадбачылі і большую зацікаўленасць публікі — звонку абсталявалі мегафоны. Дзесяць мінут перад васемнаццатай у Сабор уваходзяць высокія госці, сярод якіх мітрапаліт Васілій, архіепіскап Сава, віцэ-міністр культуры і мастацтва Міхал Ягела, беластоцкі ваявода Анджэй Гаеўскі, духавенства праваслаўнае і каталіцкае, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса і ваяводскай управы, улады Гайнаўкі і навакольных гмін.

Роўна а 18-й гадзіне пачынаецца набажэнства, якое служыць а. Антон Дзевятоўскі — заснавальнік Свята-Троіцкага Сабора. Пасля 15-мінутнай багаслужбы прывітальным выступленнем дырэктара Фестывалю Мікалая Бушко пачался афіцыйная частка. Пасля выступіў мітрапаліт Васілій, дзякуючы прадстаўнікам улад за падтрымку Фестывалю. Віцэ-міністр Ягела сказаў, што і Сабор, і Фестываль з'яўляюцца нашай супольнай вялікай каштоўнасцю. Пра асаблівае, памежнае месца Фестывалю гаварыў ваявода Анджэй Гаеўскі. „Я, як жанчына, люблю мець апошняе слова", — сказала бурмістр Гайнаўкі Ядвіга Рудзіньска-Патэюк, якую сп. Бушко папрасіў адкрыць Фестываль. Прыгожай рэфлексіўнай задумай было прасякнута выступленне гаспадыні горада. Жывем у зматэрыялізаваным свеце, гаварыла яна, у якім штораз мацней адчуваецца насілле, а з ім расце і звычайны людскі страх. І сучасны, пераляканы чалавек патрабуе нейкай надзеі. І крыніцай гэтай надзеі можа быць спеў, бо хто спявае, той верыць, сказала пані бурмістр. Пасля афіцыйнага адкрыцця рэдактар „Пшэглёнду Праваслаўнэго" Яўген Чыквін уручыў медалі і граматы імя князя Астрожскага. Здзівіла мяне тое, што так выдатна для праваслаўя заслужаныя людзі як Ю. Шурбак, В. Роўда ці М. Бушко не атрымалі гэтай узнагароды раней — відаць былі яшчэ больш вартыя яе асобы. Пры нагодзе ўшанавання знакамітасцей хочацца яшчэ мець надзею, што ў будучыні ўшануюцца і гледачы, а прынамсі тое, што большасць з іх, а асабліва высокія госці з краіны і замежжа, маюць сякую-такую адукацыю. За ўзнагароды цёпла падзякаваў Пэтэр Вітавец са Швейцарыі, які, папулярызуючы ў сябе праваслаўныя культурныя дасягненні, спрыяе будаванню мастоў між Усходам і Захадам. Афіцыёз закончыў сп. Бушко запрашаючы „ўзяць голас" лаўрэата мінулагодняга Фестывалю — Камерны хор Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі. Хор выканаў творы Архангельскага, Бартнянскага, Часнакова, Рахманінава і ананімных аўтараў. Выступленне гэтага грацыёзнага хору выдатна пацвердзіла выказанае раней меркаванне міністра Ягелы, што найлепшым музычным інструментам з'яўляецца людскі голас, бо дадзены ён самім Богам. І яшчэ слоў пару пра аднафамільца магутнага манаршага роду. Годам назад мой цёзка Максімюк папракаў у „Ніве" дырэктара Бушко, што ні разу не пакарыстаўся ён родным словам. Дырэктар мо і не чытаў гэтага. Сёлета міністр Ягела і Пэтэр Вітавец прывіталіся з прысутнымі словамі „Христос воскресе". Дарэчы, ні міністр культуры, ні госць са Швейцарыі не мусяць знаёміцца з фанабэрыямі маіх цёзкаў: яны папросту асвоілі асноўныя азы вольных, цывілізаваных людзей.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Узнясенне Гасподняе

У саракавы дзень пасля Вялікадня, заўсёды ў чацвер, прыпадае адно з дванаццаці вялікіх святаў — Узнясенне Гасподняе. Згодна са Святым Пісаннем Хрыстос у новым, адухоўленым целе, праз сорак дзён пасля Уваскрэсення з'яўляўся апосталам, умацоўваючы іхнюю веру. Адначасова падрыхтоўваў іх да хуткага развітання і загадаў заставацца ў Ерусаліме і чакаць абяцанага Суцяшальніка — Святога Духа. У саракавы дзень Хрыстос апошні раз узышоў з вучнямі на Аліўную гару. Развітальныя словы поўныя былі турботы пра будучыню маладой грамады. Асабліва ў той момант Ісус жадаў, каб плён Яго жыцця, навукі і дзейнасці існаваў і развіваўся ў Ягоных паслядоўніках. Ён багаславіў іх і даручыў ім распаўсюджваць Евангелле: „Дадзеная Мне, — сказаў Хрыстос, — усякая ўлада на небе і на зямлі... І так ідзіце і навучыце ўсе народы, хрысцячы іх у імя Айца, і Сына, і Святога Духа, навучаючы іх выпаўняць усё, што Я сказаў вам" (Матф. 28, 19—20). На іхнія плечы Настаўнік узлажыў увесь цяжар апостальства, з усімі небяспекамі і цяжкасцямі: „Будзеце мне сведкамі ў Ерусаліме і ва ўсёй Іудзеі і Самарыі, ды ажно па край зямлі", — загадаў ім. Прадбачваючы пакуты і змаганне з ворагамі хрысціянства, Хрыстос паабяцаў апосталам і іхнім вучням пастаянную падтрымку і апеку: „Я з вамі ва ўсе дні да сканчэння веку".

Апосталы былі ўдзельнікамі і сведкамі апошняй з зямных тайнаў Богачалавека — Ягонага слаўнага ўзнясення на неба. Святое Пісанне апісвае гэтую падзею без пафасу і хвалявання, як нешта цалкам натуральнае і зразумелае. Для Хрыстовых вучняў, сведкаў Ягонай дзейнасці і жыццеапісальнікаў, Узнясенне было лагічным эпілогам усяго жыцця. Гэта было ўвянчанне ўсёй зямной місіі, трыумфальнае вяртанне пераможцы з поля бітвы. Хрыстос дасягнуў перамогі над галоўнымі ворагамі: грахом, целам і смерцю, перад якімі дагэтуль чалавек быў бездапаможны. Цяпер жа грэх адкуплены, грэшнае цела распята, смерць знішчана, а людзі навекі збаўлены. Мэта зямной місіі дасягнута. На зямлі не засталося нічога, што магло б затрымоўваць Хрыста. Вучні гэтак зразумелі Узнясенне Гасподняе. З некаторым смуткам, але перш за ўсё з радасцю саўдзельніцтва ў Божых планах, яны пільна „ўглядаліся ў неба" пакуль „двое мужоў паўсталі перад імі ў белых вопратках дый сказалі: Мужы галілейскія! Чаго стаіце, узіраючыся на неба? Гэты Ісус, узяты ад вас, прыйдзе гэтаксама, як бачылі вы Яго ўзыходзячага на неба".

На жаль, сучасных нам людзей трэба было б запытацца: „Чаму глядзіце на зямлю?" Нам доўга ўбівалі ў галовы, што „неба для птушак і касманаўтаў", што гэта свет ілюзій, які адцягвае толькі ад актыўнага будаўніцтва сваёй светлай будучыні на зямлі. Чарговае пакаленне будуе ўжо гэты рай на зямлі, а ён усё больш падобны да пекла. Вера ў неба прадстаўлялася як ілюзія шкодная прагрэсу і будаўніцтву ідэальнага, камуністычнага грамадства. Цяпер выявілася, што гэта была найбольшая ілюзія. Літаральна ў кожнай дзялянцы жыцця заміж прагрэсу выявілася адсталасць. Як пісаў адзін агітатар Лісічкін, вера ў Бога „гасіць энтузіязм масаў, іх веру і здольнасці ўласнымі сіламі перабудаваць свет". Пасля шасці гадоў ад апублікавання ягоных блюзнерстваў кожнае дзіця бачыць, што ў працоўных мас ужо даўно няма ні энтузіязму, ні веры, ні здольнасці перабудаваць свет. Больш таго, няма ні дабрабыту, ні справядлівасці, ні свабоды.

Тым часам перакананне аб існаванні неба — старое як сама рэлігія. Усе ўяўлялі сабе яго паводле сваіх пануючых шчасця: грэкі — як краіну Сонца і радасці, індусы — як стан нірваны, душэўнай асалоды і спакою. Бедуіны ўяўлялі неба як аазіс сярод пустыні, а амерыканскія індзейцы — як краіну шчаслівых ловаў. Тугу па поўным і трывалым шчасці назіраем на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва. Як кавалак адкапанай шкарлупіны сведчыць аб існаванні амфары, гэтак крошкі радасці і шчасця ў цяперашнім жыцці гавораць пра існаванне абсалютнага шчасця, якое называем небам.

Узнясенне Гасподняе якраз звяртае нашую ўвагу на гэтыя справы. Вернікам яно напамінае, што зямное жыццё з'яўляецца толькі сродкам дасягнення сапраўднай мэты. Вера ў існаванне яе прыдае сэнс жыццю, узбуджае атмасферу здаровага аптымізму і спакою ў перажыванні жыцця. Яна выбаўляе ад бязмэтнасці і беззадказнасці за свае ўчынкі. Царква нязменна паўтарае, што каб жыць творча, маральна і годна, трэба жыць на зямлі з думкай пра неба.

**а. Канстанцін Бандарук**

# На Юр'я ў Ласінцы

Пра парафіяльныя святы пісаць наогул нязручна. І асабліва, калі героямі будуць вашыя знаёмыя, сваякі, прыхаджане. Таму з творчымі дылемамі прыступаю да апісання свайго прыхадскога свята.

***

Рэпарцёрскія ўражанні пачаліся за Ласінкай. Дарога на Трывежу была непраезная. Па абодвух яе баках сталі калоны незлічоных самаходаў. Застаўлены імі былі ўсе лугі, прымагільнікавы пляц. Такога яшчэ тут не было. Відаць, многія карысталіся найдаўжэйшым уік-эндам года, які пачаўся ўжо 1 мая. Да таго свята выпала ў суботу, цёплую і перапоўненую водарам чаромхі.

Найбольш гасцей, зразумела, прыехала з Беластока, потым з Гайнаўкі, урэшце з наваколля. Якраз у Беласток хлынула самая вялікая хваля мігрантаў з гэтага прыхода з семнаццатай вёсак. У гэты дзень адбылося іх хвіліннае вяртанне.

***

На Юр'я ў Ласінцы асаблівае свята. Багаслужба адпраўляецца не толькі за ўраджай, хатнюю жывёлу, сямейнае шчасце але і за памерлых продкаў. Паслявелікодныя провады фактычна адбываюцца на Юр'я. Усе жывыя думаюць перш за ўсё пра памерлых бацькоў, дзядоў, знаёмых. У гэты дзень святары асвячаюць магілы і адмаўляюць паніхідную малітву. Яшчэ нядаўна ў гэтых абрадах пераглядаўся паганскі кантэкст. На магілах пакідалі грошы, крашаныя яйкі, пірагі і нават сімвалічную чарку гарэлкі. Пра эстэтычныя перамены скажу толькі, што раней усюды віднелі спецыяльна гафтаваныя на гэты дзень белыя ручнікі і свежыя букеты чаромхі. Зараз паявіліся знічы і штучныя, каляровыя кветкі. Самыя могілкі зусім змяніліся, намножылася на іх лацінскіх надпісаў на бетонных крыжах, камп'ютэрныя партрэты памерлых. Многія пенсіянеры яшчэ пры жыцці прыгатавалі сабе помнікі. Зрэдку сустракаюцца драўляныя крыжы з царкоўнай кірыліцай. Але і яны неяк містычна пахіліліся перад сконам.

— Teraz to wszystko jedno, — скажуць вам многія прыхаджане.

Многа, аднак, асталося з сваяцкай атмасферы Юр'я. Пацалаваўшыся тройчы, па-беларуску, землякі заводзяць разгаворы пра непрысутных сваякоў, здароўе, замужжы. Польская мова не спрыяе сваяцкім сувязям і сардэчнасцям.

— Добрэ, што на дождж паказуе, — цешыліся вясковыя і гарадскія субяседнікі.

Паводле народных прыкмет пра надвор'е, калі на Юр'я дождж, год будзе ўраджайны і дастатні.

Таму і мне прыемна было прамокнуць да ніткі.

***

Непрамінаючым атракцыёнам Юр'я, як і ўсіх прыхадскіх свят, астаюцца „страганы". Апрача традыцыйных ларкоў з каляровымі цукеркамі і пластмасавымі цацкамі, расклаліся крамкі з памідорамі, надмагільнымі лямпачкамі і штучнымі кветкамі. Каля іх безліч дзяцей, моладзі, наведвальнікаў. Тут таксама разносіцца непаўторны гул, лёскат, піск на фоне сваяцкіх размоў і царкоўных напеваў. Юр'я ў Ласінцы заўсёды святкавалі радасна і вяснова.

У гэтым годзе ранг свята павысіла прысутнасць васьмі святароў. Дадатковай падзеяй было пасвячэнне новай плябаніі.

***

У Ласінцы на могілках самая старажытная ў наваколлі царкоўка. Яшчэ з уніяцкіх часоў. Цяпер вернікі адмалявалі яе на арэхава-шэры колер. У сярэдзіне новыя панелі. Некрануты толькі непаўторны інтэр'ер капліцы. Народныя вышыванкі, гафтаваныя сурвэты, ручнікі і штучныя кветкі ўпрыгожваюць аматарскія іконы. Нават святы Юрый, патрон царкоўкі, выглядае на вясковага юнака. Ці перапрывае гэты непаўторны след вясковай эстэтыкі. Капліца не раз ужо абкрадалася.

Яшчэ нядаўна на могілках у Ласінцы шумелі небаклічныя сосны. У народзе існавала нават пагаворка „збірацца пад сосны", якая азначала час памірання. Сёння па гэтых дрэвах застаўся амаль успамін. Недасечаныя сосны сваім выпадковым ацаленнем прыгадваюць шчарбатую ўсмешку над рэчаіснасцю.

**Ганна Кандрацюк**

# Паломніцтва ў Заблудаў

2 мая г.г. у чарговы раз Брацтва праваслаўнай моладзі Беластоцка-Гданьскай епархіі арганізавала пешае паломніцтва з Беластока ў Заблудаў. У Свята-Ільінскім прыходзе ў Дайлідах (дзе таксама пачынаюцца паломніцтвы на Грабарку) сабралася звыш паўтысячы чалавек, якія такім чынам хацелі ўшанаваць памяць Мучаніка Дзіцятка Гаўрыіла — святога нашай Беластоцкай зямлі.



Сярод паломнікаў большасць складала моладзь, хаця былі таксама дзеці і пажылыя людзі. У ліку духоўных былі манахі з Супрасля, а ў галаве пілігрымкі ішлі манашкі з манастыра ў Дайлідах.

Нядоўгую трасу (дзесьці пад дваццаць кіламетраў) маглі пераадолець пешшу і дзеці, і старэйшыя людзі. Калі хто сумняваўся ў сваіх фізічных магчымасцях, мог далучыцца да паломнікаў у Зверках.

Зверкі — асаблівае месца на шляху паломніцтва. Менавіта тут нарадзіўся, каб загінуць пакутніцкай смерцю, Святы Гаўрыіл. Ягоная смерць мела прыкметы рытуальнага забойства. Гаворыцца аб гэтым у трапары:

„Святый младенче Гавриилe, Ты за Прободеннаго нас ради от Иудей лютие от онехже в ребра прободен был еси и за Источившаго кровь Свою за нас все тело твое на источение кровие в лютыя язвы предал еси, ныне же во славе вечней с Ним вселился еси. Тем помяни и нас, молим, зде чтущих память твою. Прося нам здравие телеси и спасение душам нашим".

Сёлетняе паломніцтва адзначалася асаблівай урачыстасцю. У Зверках паломнікаў чакалі Мошчы Святога Мучаніка і іерархі нашай Царквы — архіепіскап Сава ды епіскапы Іеремія і Авель. Падчас малебна былі пасвячаны крыж і пляц, на якім стане царква Св. Мучаніка Гаўрыіла. У малітве прысутнічалі прадстаўнікі ўлад Заблудаўскай гміны, якія пасадзейнічалі



атрымаць месца пад будову царквы. Царква будзе ўзведзена з левага боку шашы перад вёскай (едучы з Беластока), там дзе цяпер высіцца васьміканцовы крыж.

Пасля паломнікі пайшлі ў напрамку Заблудава, спыніўшыся толькі дзеля малітвы ля прыдарожнага крыжа ў Зверках. Мошчы Мучаніка Гаўрыіла неслі на змену духоўнікі, моладзь, манашкі. За імі ішлі іерархі.

Перад самім Заблудавам паломнікаў чакаў Хрэсны ход, з якім па галоўнай вуліцы мястэчка пілігрымка пайшла ў царкву. Падчас Усяночнага дбання архіепіскап Сава сказаў, між іншым, што ў будучыні ў Зверках плануецца заснаваць пры царкве жаночы манастыр. Затым служыліся акафісты Св. Мучаніку Гаўрыілу, Уваскрэсенню Хрыстоваму і памінальны. Частка паломнікаў усю ноч правяла ў малітве, не выходзячы з царквы. Гэта менавіта яны ўдзельнічалі ў першай літургіі 3 мая а 5 гадзіне, спавядаліся і прычашчаліся. Галоўная Літургія, папярэджаная пасвячэннем вады, пачалася а 10 гадзіне. Урачыстасці закончыліся Хрэсным ходам з мошчамі Мучаніка Гаўрыіла вакол царквы.

*Святый Мучениче Младенче Гавриилe, моли Бога о нас.*

**С.Н.**

**Фота Анны Макац**

# Агляд абрадавых сцэнак...

... адбыўся 7 мая 1995 года ў Гмінным асяродку культуры ў Нарве. Выступілі з імі фальклорныя калектывы з Краснага Сяла, Паўлаў, Старога Ляўкова і з Тыневічаў-Вялікіх.

Ансамбль „Красуні" з Краснага Сяла выступіў са сцэнкай „Валачобнікі". Вядома, рэквізітамі былі крашаныя яйкі. Усё адбылося так, як запланавала кіраўнік калектыву Валянціна Марціновіч.

Самадзейнікі з Паўлаў выступілі са сцэнкай „Кудзельніцы". Усе яны добра сябе праявілі на чале з кіраўніком калектыву Аннай Раманюк. Плылі прыгожыя песні, жанчыны жвава ўвіхаліся за калаўроткамі, развітушкамі ды матавіламі.

„Цаглінкі" са Старога Ляўкова ставілі абрад „Адведкі". Удзельнічалі ў сцэнцы восем чалавек, у тым ліку кіраўнік калектыву Валянціна Грыка. Прыгожыя абрадавыя песні ды жартоўныя сцэнкі стварылі вясёлы сямейны настрой.

„Тыневічанкі" з Тыневічаў-Вялікіх захапілі гледачоў сваім выкананнем прызабытых „вяснянак" — песень прысвечаных прыходу вясны. Прагучалі ў іх і велікодныя матывы — самадзейніцы, выйшаўшы на сцэну, пахрыстосаваліся з гледачамі. Тыневіцкі калектыў мае за сабой дваццаць гадоў працы. Зараз кіраўніком калектыву з'яўляецца Валянціна Франкоўская.

Арганізатарамі сёлетняга агляду беларускіх абрадавых мастацкіх калектываў, якія дзейнічаюць у паўднёва-ўсходняй частцы Беластоцкага ваяводства, былі Галоўнае праўленне БГКТ і Нарваўскі асяродак культуры. Было гэта ўжо другое такое мерапрыемства. Першае адбылося 9 чэрвеня 1994 года таксама ў Нарве.

**Янка Целушэцкі**

# Каляндар, для каго ён?

Гавораць „якія грошы, такі тавар". Кніжны „Беларускі каляндар" на 1995 год адпавядае гэтай народнай прымаўцы. Ён амаль дармовы, бо што сёння значыць 20 тысяч злотаў? Папера шэрая і сьвяты шэрыя, як кожны другі дзень. Але не ў колеры справа. Справа ў тым, што ў календары няма чаго чытаць: адна хвальба. Нашыя вялікія дзеячы хваляць адзін аднаго. Каму патрэбны аграмадны артыкул Янкі Сычэўскага п.з. „Летапіс дзейнасці БГКТ у 1993-1994 гадах" і яму падобныя. Надаелі яны нам у колішніх „Нівах" і „Беларускіх календарах" з мінулых гадоў. Або два артыкулы пра беларускую асвету: пра Бельскі і Гайнаўскі беларускія ліцэі. Гэта фантазія, што яны беларускія, бо толькі адзін прадмет вывучаецца ў іх па-беларуску. Бо мовай навучання і размоў між вучнямі і настаўнікамі з'яўляецца польская мова. Або тыя розныя музыкальныя калектывы як „Жаваранкі" з Гданьска ці іншыя. Каму яны ў галаве? Напэўна не селяніну: мае ён важнейшыя справы, чым іхнія спевы і напевы. У календары няма ні адной гаспадарчай парады для селяніна, няма дапамогі ў тым, што хвалюе вясковага гаспадара. Няма таксама парад для гаспадыняў і маладажонаў, а таксама цікавінак з шырокага свету з галіны гісторыі, геаграфіі, біялогіі. „Літаратурны палетак" так паблытаны, што цяжка разабрацца, дзе там пачатак а дзе канец. Аўтары „Календара" цалкам забылі пра нашую „Ніву", успамінаюць тую колішнюю. А варта было напісаць, як гэта дзеячы выкарысталі „свае" камп'ютэры, якую гэтае іх уладанне імі прынясло карысць нашым беларусам. І здзіўляе мяне адно: калісь, калі рэдактары нашага календара былі менш адукаванымі, тады і календары былі намнога цікавейшымі: былі і парады, і весткі, і гістарычныя спраўкі, а сёння няма чаго там чытаць. Варта ў ім пачытаць толькі манаграфію пяра Яна Леанчука пра Віктара Шведа з нагоды яго 70-годдзя. Вартая таксама ўвагі манаграфія Янкі Жамойціна п.з. „Вацлаў Іваноўскі ў люстэрцы гісторыі". Праўду кажучы, дык усе сённяшнія календары, і тыя польскія, і праваслаўныя, і іншыя — намнога слабейшыя ад колішніх. Напрыклад польскія календары выдавецтва „Іскры" з 50-х гадоў былі сапраўднымі крыніцамі ведаў для ўсіх: і для селяніна, і для рабочага, і вучня, і студэнта. Сёння такіх календароў няма. Мы ідзем з прагрэсам, які цяжка зразумець.

**Мікалай Панфілюк**

Ліст у рэдакцыю

# Хаця б крыху такту

Ад тых, хто называе чорным белае, няма чаго спадзявацца ды чакаць справядлівасці. Але можна дамагацца, і то для іх дабра, крышку такту ў адносінах да іншых, бо нахабнікаў ніхто не любіць.

Колькі ўжо змарнавана паперы, часу і нерваў на тое, каб даказаць некаторым былым палітычным і ўзброеным групіроўкам, а сённяшнім ветэраам АК і ксяндзам, што гэта іх атрады здзекаваліся, палілі беларускія вёскі разам з насельніцтвам, Богу духа вінаватых сялян, а яны свае.

У 1989 годзе на калоне кіна „Тон" гарадская арганізацыя ветэранаў Арміі Краёвай у суправаджэнні розных сцягаў, святых харугваў каталіцкага Касцёла і епіскапаў адкрыла мемарыяльную дошку ў гонар акаўцаў з прысвячэннем: „W tym budynku po wojnie skazywano na śmierć żołnierzy Polski Podziemnej". Я адразу зарэагаваў у „Кур'еры Падляскім". Зноў пачаліся начныя тэлефоны, як у пачатку васьмідзесятых гадоў, з пагрозамі. Не меў я куды падзецца і дачакаўся знікнення гэтай дошкі са сцяны. Тым болей, што густа пачалі паяўляцца так у „Ніве", як і ў „Часопісе" рэпартажы Яна Максімюка і Юркі Каліны з высмаленых вёсак. Здавалася, што нехта з галавароў дайшоў да высновы, што аднак пішучыя маюць рацыю і запрапанаваў схаваць дошку на больш спрыяльны час.

Якое ж было маё здзіўленне, калі пабачыў па рэгіянальным тэлебачанні, што 3 мая 1995 года зноў павесілі гэтую ж дошку з тым жа надпісам, зноў пакрапіў яе нейкі ксёндз, хаця ўжо не епіскап, зноў была прамова аб геройстве акаўскіх атрадаў у барацьбе з камунай. Прамаўляў нейкі Астроўскі, які аніводным словам не заікнуўся аб тым, што здарылася ім „памыліцца" і падчас ліквідацыі „агентаў" НКУС і УБ застрэлілі двое нявінных людзей. Ну, мо трое. Такую інфармацыю свет успрыняў бы, як перапрасіны, хаця яна, вядома, была б наскрозь фальшывая. Але ён, перапрашаю чытачоў, а не Астроўскага за выказванне, нат не рохнуў не толькі аб злачынствах некаторых атрадаў АК, але нават аб памылках. Наадварот, я мяркую, што гэтыя дзеячы нічога не саромеюцца і ўсё толькі робяць дзеля таго, каб нічога з праўды не дасталася на шырэйшыя воды. Беларусы прамаўчаць кожную сваю крыўду, бо ўсё яшчэ баяцца, а ў канцы асімілююцца і ўсё зраўнеецца. Акаўцы астануцца ў гісторыі героямі, а... аб нас гісторыя не напіша нічога, бо нас звычайна не будзе. За сто гадоў не астанецца па нас нават ніводзін могільнік, ні святыня, ні музей. Не гавару ўжо аб мове.

**Васіль Петручук**

# Пушча гарыць

Пажары не абмінаюць таксама Белавежскай пушчы. Неасцярожнасць пры карыстанні агнём ці наўмысныя падпалы прычыняюць вялікія спусташэнні на гэтай тэрыторыі. Возьмем хаця б для прыкладу 1994 год. Усе тры пушчанскія надлясніцтвы аднатавалі разам аж 30 пажараў на плошчы 11,63 га. Плошча страт дасягнула 6,70 га, а нанесеныя шкоды склалі 196 млн. злотаў. Найбольш пажараў успыхнула ў надлясніцтве Броўск — 23. Астатнія надлясніцтвы аднатавалі 5 (Гайнаўка) і 2 (Белавежа) пажары.

Паводле Рэгіянальнай дырэкцыі дзяржаўных лясоў у Беластоку, прычынай узнікнення ў пушчы ў 1994 г. пажараў былі: неасцярожнасць дарослых (14 выпадкаў), неасцярожнасць дзяцей (1), наўмысныя падпалы (2). Прычыны 12 пажараў дагэтуль яшчэ нявысветлены. У сваю чаргу не здарыўся аніводзін выпадак пажару з-за чыгуначнага транспарту ці аварыі энергетычных ліній.

Будзьма затым больш асцярожнымі з агнём у лесе! Лес гарыць хутка, расце надта паволі.

**Пётр Байко**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка XI**

Сёння прыводжу апошнія выказванні маёй Маці на тэму Айчыны. Занатаваў я іх у маі 1975 года, пасля смерці майго Бацькі. Дарэчы, мая Маці перажыла Бацьку ўсяго на некалькі месяцаў. Смерці чакала Яна са спакоем і нават пашанай. Лічыла яе чымсьці так натуральным і непазбежным, як усыханне расцін восенню або ўпадак спарахнелага дрэва.

„Ты тут мне ужэ пару разоў гаварыў пра малую і вяліку Родзіну. Ну то я табе скажу, што калі мне хтось там гаворыт пра Мінск чы якоесь другое место беларуске то я нічого ні чую ў сваіх грудзях. Але калі думаю пра нашу стару, ну значыцца пра Бандары, пра Семяноўку, пра семяноўску або юшкаўску цэркву, то мне робіцца добрэ ў сэрцы. Ты знаеш, мне вельмі часто сніцца той час, калі я была малым дзіцём. Часом то сніцца, як я калісь у траве знайшла гняздэчко з птушанятамі і як аднэ з іх вылезло з гнезда і яго ледво живое палажила назад у гнэздо і после кажды дзень хадзіла каб спраўдзіць чы яно выжыве. І што ты думаеш, выжыло! Часто сняцца мне семеноўскі забавы, на каторы я хадзіла маладою дзяўчыною. Прачнуся сабе і думаю, чом гэто мне, старой бабі, катора стаіт над магілаю, сняцца такія дурноты. Ну, але відно так яно ужэ трэбо, што на старасць варочаецца ўсё тое, што было ў дзяцінстве. А вогуле то ўсё жыцце праляцела як страла. Не успее чалавек, здавалася б, пажыць, а ужэ стаіт над магілаю.

То значыццэ, мой бабскі розум то нічого ні панімае з тае, як ты кажэш, вялікае Родзіны. Для мяне родзіна гэто тое, што я бачу вышаўшы з хаты або тое куды магу зайсці за адзін дзень і вярнуцца дахаты.

Ты знаеш, сіхібо, два рокі назад то я была ў Надзі ў Беластоку. Ездзіла да дохтара. Добра яна там жыве, кварціра ў яе вяліка і дзеці паслушны. Але як яна там жыве, то я ні знаю: кругом адны муры, а пад нагамі цыментовы пліты. А людзі бегут кругом, як ашалелы, у калейках стаят і за ўсё плацят, нават за воду. Ну то мне Надзя сказала, каб я ў іх засталася жыці, ну бо бацька вашага ўжо і так і так німа. Божэ мой Божэ, я ж у тым Беластоку згінула б як рудая мыш і памерла б на много раней чым трэбо. Там жэш мне ўсё чужое. Ну, ужэ дзе як дзе, але ў Беластоку то для мяне ніякае родзіны німа. Можэ гэто для палякоў чы тых беларусоў, што там нарадзіліся то гэто і родзіна, але ні для мяне. Для мяне родзіна тут дзе я нарадзілася і дзе памру.

От, бачыш, якое нішчасце ў мяне сталасе — ногі аднялісе. Ні магу хадзіці і гэто веліка беда. А ты знаеш, што мне часом сніцца, што ні толькі хаджу, але і бегаю, і нават летаю. Німа такого дня, коб я ні падумала, што мне вернецца сіла ў ногі і я зноў пачну хадзіці. Калі б штось такое сталасе, то я спачатку абышла б цэлу хату, после цэлы падворак, после цэлэ нашэ поле, а после то цэлу нашу вёску. Пашла б таксамо ў Семяноўку, туды дзе прамінуло мае дзяцінство і моладасць. Зайшла б у цэркву, паглядзела б, чы там вісіт тая іконка, катору я з Пячэрскае лаўры прынесла. Пашла б таксама ў лес, каторы калісь садзіла і паслухала б як ён шуміт і співае. Ну, адным словом, то абышла б цэлу нашу Родзіну. Калі б такіе чудзеса маглі стацца, то я тады ўжэ магла б спакойна ўміраці. А ў ніякі Мінск то я ні пашла б і ні паехала б, бо нішто мяне туды ні цягне, хоць ты гаворыш, што гэто наша вяліка Родзіна. Ну, але калі ўжэ памру і пахаваюць мяне ў Юшкавым Грудзе, то гэто таксамо будзе вельмі добрэ. Бо могілкі то таксамо наша родзіна. Ну, а чаго я ад вас хачу? Ну, каб пахавалі каля бацька і каб час ад часу вы прыходзілі на нашы магілы. Памятніка вялікаго і вельмі дарагого ні стаўце. Нашто? Ніхай будзе такі як і ў іншых звычайных людзей. Па смерці ўсе ж людзі роўны. Так хочэ Бог. Калі б Бог так ні хацеў, то уміралі б толькі бедны, а багаты то жылі б вечно, бо выкупілісе б ад смерці. Але ні, ад смерці ні выкупішсе ніякім золатом.

Я то шчаслівэ жыце перажыла. Ні забралі нас немцы ані ў Германію, ані ў лагер, ні вывезлі саветы ў Сібір. Цэлэ жыцэ перажыла на Родзіні, то гэто ж найбольшэ шчасце. Ты ж падумай, дзевяносто лет!

І ты так жыві. Ужэ калі мусіш жыці ў Варшаві, то хоць як найчасцей сюды ў Бандары прыязджай, бо тут твая родзіна, не ў Польшчы. І людзей ні зачыпай, хай сабе жывут як хочут. Ні нападай на нікого, нават на тых, хто на цябе нападае. Ніхай іх Бог пакарае, а ты іх ні карай. Ну і куды б цябе судзьба ні закінула, то знай, што родзіна то ў чалавека толькі адна і яна тут, а ні дзесь там нівядомо дзе. Ну, а чом ты мяне толькі часу пра гэту родзіну пытаў, то я ні маю ніякаго паняцця. Ты ж сам сто разоў лепш чым я ўсё гэто знаеш. Чы гэто табе напраўду цікаво знаці, што вяскова дурная баба табе пляце?"

**Алесь Барскі**

Фальклор

# ВЯСНЯНКА

Там млоды конь стояў, ў ёго сыва
грыва.
Сподобалась міні, сподобалась міні
молода дівчына.
Ны так та дівчына, як еі лічынько.
— Подай мні, дівчыно, подай мні,
дівчыно,
на коня ручэньку.
Я ручкі ны дала, тры слова сказала:
— О, бодай, о, бодай, о, бодай, о бодай,
коханя ны знала.
Бо тэ коханічко зрана до вэчора —
поколь сонце зыйдэ, поколь сонце
зыйдэ,
коханя ны будэ.
Поколь сонцэ зыйдэ, поколь сонцэ
зыйдэ,
коханя ны будэ.

*Песню жанчын*
*з вёскі Мікулічы*
*(Мілейчыцкая гміна)*
*запісаў Янка Целушэцкі*

# Чары

Зоська з Н. хісткім крокам валаклася ў сваю хату. Вечарэла.

— Зноў падзерліся! — каменціравалі з-за фіранак усёведныя цёткі.

У Н. ведалі, што маладзіца Зоська выпівае пасля сваркі з мужам. І пэўна ўсё сціхла б разам з ноччу, каб не адно здарэнне.

У Н. многія сядзібы аднолькавыя. Ва ўсіх такія самыя панадворкі, хлявы, кветкі ў агародчыках. Таму не дзіва, што нашая гераіня папала да суседзяў. У Н. пайшлі цывілізацыйныя перамены. Вяскоўцы навучыліся пакідаць свой абутак перад дзвярыма. Нашая гераіня, як усе вяскоўцы, скінула свае боты-казачкі і рушыла на суседавы пакоі. Ніхто аднак не ведае, якім спосабам і чынам вымяло яе пазней з суседавай хаты і занясло ў сваю. Многія доўга пра гэта гадалі і талкавалі. А Вы, што пра гэта думаеце?

Бяда пачалася на другі дзень.

— Ой, божачкі, божачкі! — ляментавала суседка Зоські, зглецзеўшы на парозе новыя, дарагія боты.

— Пэўна чары падкінулі ведзьмары паганыя, каструбатыя, — паўтарала ў адчаі цётка.

Два боты, два няшчасці — думалі ўсе сямейнікі, сярод якіх былі два кавалеры. Ад такіх чараў маглі б яны застацца ў халасцяках, быць вечнымі нешчаслівцамі. Неўзабаве маці і двух кавалераў пагналіся высвятляць таямнічую знаходку ў самой аўтарытэтнай бабы.

Справа не выглядала надзейна.

— Без дапамогі бабы з суседняга раёна нічога не адкруну, — заявіла паважаная знахарка.

Тады ўсе нашыя героі наведалі чарговую бабу. Урэшце высветлілі. Бабы растлумачылі, што пакінутыя боты неабходна спаліць, а попел раскінуць на раздарожжы.

І гэтае здарэнне таксама, быццам той зачараваны попел, пайшло на вецер. Новая праблема з'явілася толькі тады, калі ацверазеўшая Зоська пачала шукаць сваіх ботаў. Зразумела, што найперш пайшла параіцца сваіх суседзяў. Добра, што хаця ў наступнай хаце „настроілі" ёй падацца да бабы.

**К. С.**

*Карысныя парады*
*Янкі Целушэцкага*

## Прышчэпка пладовых дрэў

Садаводу-аматару нярэдка даводзіцца думаць пра лёс некаторых насаджэнняў у садзе. Часам па нявопытнасці пры закладцы саду было высаджана замнога дрэў аднаго гатунку, і прытым не заўсёды самага лепшага. Бывае, што дрэвы не задавальняюць садавода. У такіх выпадках рэкамендуецца праводзіць перапрышчэпку няўдалых дрэў.

Для перапрышчэпкі прыгодныя толькі здаровыя, з непашкоджаным ствалом дрэвы. Расліны з 5—7-гадовым узростам можна перапрышчапіць у адзін год. Больш старыя дрэвы, якія маюць моцную, добраразгалінаваную крону, перапрышчэпваюць па частках, за 2—3 гады. Заўсёды варта помніць, што чым маладзей дрэва, тым лепшы эфект. Пачынаючы перапрышчэпку з вяршыні кроны і верхніх сукоў, паступова пераходзіць да ніжніх галін. Перад тым, як праводзіць перапрышчэпку, трэба старанна абразаць дрэвы, выразаючы ўсе непатрэбныя галіны. Абразаючы іх мага бліжэй да асновы, у гэтым выпадку будзе значна менш ваўчковых парасткаў.

Для веснавой перапрышчэпкі выкарыстоўваюцца аднагадовыя парасткі (чаранкі). Іх трэба нарыхтоўваць з восені або рана зімой і захоўваць у пограбе на ледніку пры тэмпературы 0—2°C марозу або пад снегам. Да часу прышчэпкі пупышкі на чаранках не павінны кранацца ў рост. Перапрышчэпку праводзяць да пачатку росту парасткаў, калі кара добра адстане ад драўніны — у нашых умовах лепш на працягу мая. Найлепшы спосаб прышчэпкі тоўстых з'яўляецца прышчэпка за кару. Садовы нож павінен быць востры, каб атрымліваліся гладкія парэзы. Чаранок прышчэпкі павінен мець 2—3 добра развітыя роставыя пупышкі. Адразу ж пасля закладкі чаранка пад кару трэба абвязаць яго лубам, плёнкай (лепш прымяняць поліхлорвінілавую) або ліпкай ізаляцыйнай стужкай і вельмі старанна замазаць садовым варам. Абмазваць абавязкова і верхні зрэз чаранка.

Рэцэптаў садовай замазкі існуе шмат. Прасцейшая з іх: узяць 1 частку каніфолі, 1 частку воску або парафіну, 1 частку алею і зварыць. Замазка павінна быць ліпкая, добра размазвацца, не засыхаць, не расцякацца ў любое надвор'е.

# ПАДЗЯКА

Пяць гадоў прайшло ад шлюбу Казі і Франка, як нарадзіўся ім Адольф. Казя чатыры гады ездзіла па дактарах, але якасьці не магла зацяжарыць да гэтай пары.

Роды праходзілі з праблемамі і лекар сказаў Казі, што шанцаў на наступных дзяцей у яе няма.

Адольфік быў дзіцём хваравітым. Бацькі дагаджалі яму, як маглі. Прысягнулі ў касцёле выпаўняць сурова ўсе пасты і пайсці ў паломніцтва на Ясную Гару. Адракліся есці мяса і піць спіртное нават у святы.

Дзіцё паправілася. Але з навукамі не ўдалося. Дома таксама з неахвотай дапамагае. Бацькі самі ўпраўляюцца з гаспадаркай, а здаравенны бамбіза — п'е. Аўтамашынай возіць сяброў на піва ў горад, а бензіну яму не хапае, каб завезці бацькоў у касцёл памаліцца.

— Ой, як то цябе Бог кіруе, сынку, — кажа цётка-варшавянка. — Чаму ж ты такі?

— Я на гэты свет не прасіўся. Хацелі мяне мець, то і маюць. Якім мяне выгадавалі, такога і ў свет пусцілі.

Не дапамагаюць нават просьбы і папрокі святара. Адольф смяецца, што гарэлка забівае чарвякоў унутры чалавека, а жанчыну, каб завесці сям'ю, браць на галаву — бяда дый годзе, і няхай яго ксёндз не намаўляе на змены.

— Адольф, — просяць бацькі, — ты падумай: мы старэем, гаспадарка прападзе...

— Нічога, нічога. Аддам маёнтак каму-небудзь у арэнду, і якасьці пражыву...

Так праходзіць час, а Адольф робіць сваё. А бацькі пытаюцца адно ў аднаго:

— Што мы такога дрэннага зрабілі, што Бог даў нам такога сына?

**Аўрора**

На спартыўнай ніве

# Найлепшыя бегуны

У Супраслі адбыліся спаборніцтвы па бар'ернаму бегу вучняў пачатковых ды сельскагаспадарчых і лясных школ з Беластоцкага ваяводства.

На дыстанцыі 500 м з ліку юнакоў (1984 года нараджэння) пераможцам стаў Лешэк Альховік, вучань Пачатковай школы ў Крынках.

На дыстанцыі 1 200 м сярод дзяўчат (1980 і 1981 гадоў нараджэння) найлепш пабегла Юстына Антановіч з Пачатковай школы ў Гарадку.

На дыстанцыі 2 000 м сярод юнакоў (1980 і 1981 гадоў нараджэння) першынство заваяваў Патрыцыюш Пажых, вучань Пачатковай школы ў Шудзялаве.

А вось прозвішчы найлепшых бегуноў з сельскагаспадарчых і лясных школ.

На дыстанцыі 1 000 м з ліку дзяўчат 1978 года нараджэння і малодшых сваіх сапернiц апярэдзіла Анна Цыльвік з Сельскагаспадарчай школы ў Дайлідах. На такой жа самай дыстанцыі сярод дзяўчат 1977 года нараджэння і старэйшых першынство заваявала Анэта Куніцкая, вучаніца Сельскагаспадарчай школы ў Бельску-Падляшскім.

На 2 000-метровай дыстанцыі з ліку хлопцаў 1978 года нараджэння і малодшых пераможцам стаў Тамаш Дамброўскі з сельскагаспадарчай школы ў Бельску. На дыстанцыі 3 000 м сярод хлопцаў 1977 года нараджэння і старэйшых сваіх сапернікаў апярэдзіў Радаслаў Свіць, вучань Лясной школы ў Белавежы.

**(яц)**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Прыснілася мне ў апошні час цэлая серыя непрыемных сноў. Вось два з іх.

Сніцца мне, быццам стаю я на мосце ля нейкага млына. Раптам бачу, што ў мяне вываліўся з рота спарахнелы зуб. Вываліўся і паляцеў з моста ў рэчку. Зуб быў ужо прызначаны для вырвання і вылецеў без крыві.

У гэту ж ноч прысніўся і другі. Быццам іду я па тратуары, а насустрач мне ідзе чалавек, а на месцы яго вачэй — чорныя дзіркі. Выглядала так, быццам бы чэрап быў на здаровым целе. Чалавек гэты вёў за руку хлопчыка. Я мінула іх, аглядаюся, і бачу, што ззаду ў хлопчыка другі твар. Божа, гэта не твар, а проста нейкая воўчая маска! Поўсці не было, „твар" быў белы — як маска з пластмасы. Нейкі кашмар! У страху я прачнулася. Кепскія сны, праўда, Астроне.

**Ванда**

Ванда! Адразу скажу: сны не прадвяшчаюць нічога добрага. Што датычыць першага сну, дык той выпаўшы зуб можа абазначаць смерць некага блізкага. Аднак жа, беручы пад увагу, што зуб быў без крыві, не будзе гэта смерць некага кроўнага, надта блізкага сваяка.

Што датычыць другога сну, дык ён сапраўды кашмарны. Таксама звязаны з надта непрыемнымі справамі, а можа нават і са смерцю. Той чалавек з чэрапам замест галавы, дзіця з двума тварамі ці маскай, адным словам, вырадак — не прадвяшчаюць нічога добрага. Сумна мне, што мушу пісаць гэтыя словы, але маніць не буду.

**Астрон**

# ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. духоўная асоба, 3. брус пад падлогу або столь, 5. конны экіпаж на рысорах, 7. у бярозы белая, 9. раён у Грэцыі з цэнтрам у Яніне, 10. вугал каля печы, дзе стаяла качарга, 11 выбарны заканадаўчы орган, 12. галоўны орган выканаўчай улады, 14. градка для кветак, 16. вялікі горад на захадзе Індыі, 17. гульня.

**Вертыкальна:** 1. кнот у стэарыне, 2. дугападобнае перакрыццё дзвярэй, 3. пасля альфы, 4. штат на поўначы Індыі, 6. усенароднае апытанне, 8. дарога паралельная да лініі фронту, 9. старажытнагрэчаскі філосаф-матэрыяліст, 11. узор выразаны на цвёрдым матэрыяле, 13. зварот з просьбай, заклікам, 14. ліпкае рэчыва, 15. аснова, апорны пункт.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 15 нумара:** футбол, баксёр, Слонім, начлег, кельты, Сёмуха, седала, штукар, красун, схізма, званок.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму і Лукашу Пацэвічу з Беластока.**


Ніва

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1995 r. upływa 20 sierpnia 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

# СВІННІ

Свой лыч уторкнуўшы ў карыта,
свіння зарохкала сярдзіта:
— Ну, хто яшчэ там лезе-прэцца?
Бач! Аніяк не нажарэцца...
А гэта быў сусед-кабан,
на ўвесь свінушнік — першы пан.
— Ты што?! Пасунься! — рохкнуў
ён. —
Інакш адгэтуль пойдзеш вон!..
І пад такую спрэчку іх
карыта апусцела ўміг.
Ах, свінні! Зразумейце ўсё ж,
хоць гэта вас і не ўратуе:
той першы пойдзе з вас пад нож,
хто першы сала нагадуе.

**Артур Вольскі**

## Думкі ўслых

Мара аб доміку з агародчыкам
здзейснілася толькі ў магіле.

* * *

Хто бачыў лунаціка,
які ўвайшоў у начны гаршок.

* * *

Падзенне — пазіцыя сілы.
Там ужо няма прыніжэння.

* * *

Зважылі дзве вагі.
У іх былі розныя вагі.

* * *

Бюстгальтар, незалежна ад памеру,
скрывае ў сабе вялікую таямніцу.

**Адам Сяменьчык**





*— Памятай: плюралізм — гэта рабі, як я кажу, хаця можаш застацца пры сваіх перакананнях.*

Мал. Е. Гурова

# СМЕХ У САНАТОРЫІ

У паліцыйнай школе дакладчык чытае лекцыю па фізіцы:

— Вада кіпіць пры тэмпературы 90 градусаў.

Курсанты ўсё запісваюць. Толькі адзін глянуў у стольі адазваўся:

— Пан прафесар, вада кіпіць пры тэмпературы 100 градусаў.

— Добра, зараз праверым. Маеце рацыю: вада кіпіць пры тэмпературы 100 градусаў; 90 градусаў — гэта прамы вугал.

* * *

Паліцыянт вяртаецца са службы дадому, заглядае ў халадзільнік і са злосцю б'е жонку па твары:

— Колькі разоў гаварыў, каб ты гасіла святло ў халадзільніку!..

* * *

Паліцыянт дапытвае беспрацоўнага мужчыну:

— З чаго ўтрымоўваецеся?

— Іду з людзьмі ў заклад на розныя тэмы і пераважна выйграваю.

— А можа і са мною заложыцеся?

— Вельмі ахвотна! Стаўлю сто тысяч новых злотаў, што заўтра на вашай задніцы вырасце трава.

— Хе-хе-хе, прымаю!

На другі дзень паліцыянт сустракае спецыяліста па закладах:

— Ну, давайце мне гэтыя сто тысяч: трава, вядома, не вырасла!

— Памаленьку, памаленьку, я мушу гэта праверыць. Прашу зняць нагавіцы. І не тут, у цёмным кутку — прашу стаць пры адкрытым акне.

Агляд быў кароткі:

— Фактычна, не вырасла. Вось вам вашыя 100 тысяч выйгрышу.

— Хе-хе-хе, ну і з вас ідыёт: гаворыце, што можна жыць з закладаў!!

— Яшчэ як! Бачыце гэтых трох мужчын унізе, на вуліцы? З кожным з іх пайшоў я ў заклад на 200 тысяч, што вы выставіце голую задніцу ў адкрытае акно.

* * *

Афіцэр службы бяспекі правярае інтэлігенцыю маладых кандыдатаў на працу ў сваёй установе:

— Маеце тут 10 тысяч злотаў і купіце аўтамабіль „Паланез" у „Польмазбыце"! Афіцэр выходзіць, а маладзёны смяюцца згодна:

— Дурань гэта якісь. Сёння ж выхадная субота і крамы „Польмазбыту" закрыты!

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**




Даражэнькае Сэрцайка! Ці можна сабе ўявіць, што адзінае дзіця адварочваецца ад цябе?! Я ж яму ўсё, здаецца, што магла, дала, майму адзінаму сыночку, а ён мяне за маці прызнаваць не хоча.

Нават не ведаю, што пераважыла ў нашых адносінах: ці тое, што я развялася з мужам, ці пазнейшыя павадзіны майго сына.

З мужам мне жыцця не было. І нават не тое, каб піў ці па бабах лазіў. І нельга сказаць, што быў кепскі ў адносінах да мяне, але проста, як кажуць, не сышліся характарамі. Я любіла музыку, літаратуру, фільм — для яго гэта не існавала. Я хацела бываць сярод людзей, а ён бы толькі сядзеў у хаце ды гробся ў дамашніх справах. Праўда, тое, што ён займаўся больш за мяне кухняй і сынам, дазваляла мне больш часу прысвячаць прафесійнай працы. Але гэта і аддзяляла мяне ад сям'і.

Хутка я пераканалася, што не спяшаюся дахаты. Прыемна было застацца на рабоце з маім шэфам, пагутарыць, выпіць кілішак каньяку. А што прыемнага чакала мяне дома? Праца, крутня — і ўсё невядома дзеля чаго.

І так не заўважыла я, як мой шэф стаў для мяне не толькі шэфам. А муж стаў мне зусім абыякавы. У такой сітуацыі маё сумленне не дазваляла мне заставацца яго жонкай, і я падала на развод. Што было! Муж спачатку не хацеў згадзіцца на развод, гаварыў нават, што ён на ўсё згаджаецца, абы толькі сям'я засталася цэлая. Я пераканала яго, што і так жыцця ў нас не будзе. Суд даў нам развод, сына аддаючы мне, амаль заўсёды ж дзяцей аддаюць маці.

Пасля разводу, аднак, пачалося пекла. Сын не мог мне дараваць таго, што быццам я разбіла сям'ю. Бедалага, не разумеў ён, што між мною і яго бацькам ужо даўно нічога не было. Не відаць было, каб сын быў шчаслівы, што застаўся з маці, хаця я прабавала яму тлумачыць, што разам нам будзе добра.

Даражэнькае! Мой „шэф" раздумаўся і не развёўся з жонкай для мяне, як абяцаў. Мы надалей сустракаемся, часамі кудысьці выскачым, але пасля трэба адной вяртацца дахаты. Мой былы муж неспадзявана хутка ажаніўся (?!) і ўжо мае нават дачушку. А, здавалася, такі быў ціхі...

Але самае страшнае напаткала мяне з боку майго сына. Уяві сабе, Сэрцайка, ва ўзросце дваццаці гадоў ён пайшоў з хаты. А я ж яму купляла, што толькі хацеў, ні ў чым не адмаўляла, на ўсё згаджалася...

Калі, аднак, наняў кватэру і пачаў там жыць з дзяўчынай, я ўжо не магла гэтага перанесці. Кажу, што гэта не па-людску, каб хлопец з дзяўчынай жыў без шлюбу. Сын у мяне тады спытаўся, а як я жыла і жыву. Што мне было з ім дыскутаваць! Тлумачыць, што жыццё яшчэ перад ім, што ўсё яшчэ можа быць інакш?

Так і жылі яны. Нідзе не працавалі, гандлявалі пакрысе. Гэта была крыніца іх даходу. А нядаўна сын павядаміў, што дзяўчына цяжарная. Ну, так! Гэтага і трэба было спадзявацца. Што цяпер будзе?! Рассварыліся мы з сынам зусім! Не хоча ён ніякай ад мяне дапамогі, а я і не напрошваюся. І так яму не дагодзіш. Што ні куплю — усё не так. Прададуць, не ўбачу ні рэчы, ні грошай. Дык чаго старацца? І так засталася я ў хаце адна, як палец. І няма нікога, хто быў бы мне цалкам адданы. Свае дзеці бываюць горшыя за чужых.

Марыя

Марыя! А мо ты была чужой для свайго дзіцяці?! Ахвотна сапхнула большасць абавязкаў па хаце на мужа, уключна з выхаваннем сына. Жыла быццам для вышэйшых мэт, бо ў цябе была вышэйшая адукацыя, ну і што з таго выйшла?! Давала дзіцяці ўсё, што „можна было": грошы, падарункі, на ўсё дазваляла. Учынак твайго сына — лагічны працяг усёй цэласці: раз — што зрабіў так, як хацеў, два — выказаў пратэст супраць цябе і тваіх паводзін.

Калі ты планавала развесціся з мужам, нават на адну хвіліну не падумала пра сына. Ты была перакананая, што бацькам яму стане твой новы чалавек. Жыццё аказалася каварнае, бо твой шэф застаўся з жонкай і пры сваіх дзецях, а твой муж, наадварот, хутка пацешыўся новай жонкай.

І ты, пасля адыходу сына засталася адзінокая. За ўсё ў жыцці трэба плаціць.

Сэрцайка

*Сцяпан Абух*

# З запісаў нацыяналіста

### 12. Арыстоцель Ванько

Памяркоўным крокам, трошку клышавата, Арыстоцель Ванько пераступіў парог рэдакцыі „Гоняў". Дастойна ўбазаваўшыся ў адзін з фатэляў прыёмнай Айвена Біча, пачаў даставаць з кішэні пачку любагорскіх „Любчыкаў" з фільтрам. Цікавая справа — падумалася яму пры гэтым, — што на базары ад замбарскіх выхадцаў можна іх купіць напалову танней. Акуратна намуляўшы адну цыгарэту, дастаў з кішэні яшчэ шкляную люльку, якая не ведаць калі ўжо страціла сваю празрыстасць. Ванько сунуў яе сабе пад нос і панюхаў. Ад люлькі нясло нікацінавай гніллю. Ванько лічыў сябе чалавекам практычным. Дастаў з вуха шматочак ваты, навіў яго на запалку і стаў прапіхаць праз шкляную трубачку. Наканец роўненька адкалупнуў фільтр ад цыгарэты, засадзіў яе ў ачышчаную люльку і, прыкурваючы, глыбока ўцягнуў першы палкі дымок...

Галоўны занятак зонаўца — дзейнасць. На згадку дзейнасці Ванько, бы ад мухі, адмахнуўся рукою. Ён усяго зрэдчас карыстаўся гэтым словам. Ужываў традыцыйныя тэрміны: праца, работа. Тэрмін „дзейнасць" — спрабаваў прыгадаць сабе, — прыбыў у Зону з Замбара, з правінцыі Тыкан-Ва. Прывезла яго адтуль і распаўсюдзіла двух зонаўцаў: Юры Бабко і Лёлік Назарэз. Тыкан-Ва, у пераканнні яе жыхароў, была найважнейшай правінцыяй усяго Замбара ды мела амбіцыю кіраваць усім светам. У Тыкан-Ва дзейнасцю займаўся Свяцейшае Яйцо — правінцыял, які, як адзіны не-зонавец у свеце, ведаў беларускую мову Зоны. Тамашні дзённік „Тыкан-Ва Дэйлі", які выходзіў на трэйшан (г.зв. Trasian English), меў нават сваю пастаянную рубрыку „Дзейнасць Свяцейшага Яйца". Мала гэтага — яшчэ падумалася для Ванько, — Свяцейшае Яйцо ведаў таксама замбаран...

Дзейнасць, дзейнічаць — міжволі думалася Ванько, — дзейнік, дзяец, дзейнічанне... Вось яно як. А ў кожнага аднаго сваё семантычнае поле. Дзейнічанне, на той прыклад, для маладога зонаўца мае выключны сексуальны падтэкст. Ну, а дзейнік..? Ха-ха-ха, Ванько пачырванеў і заўсміхнуўся па-кашэчаму...

У кожнага свая дзейнасць. „Гоні", як сама назва гаворыць, маючы свае нейтронныя плугі, магнітна-стэльважныя перадатчыкі бульбы і электронныя сохі, абрабляюць спрадвечныя зонаўскія загоны. А каб іх спруцілі — Ванько быў стрыманы чалавек, але тут не стрымаўся і зноў замахаў рукамі ад сваіх думак. Угнявіла яго нядбайнасць скібавага складу. Каб хоць баранаваць навучыліся акуратна...

Ён жа сам: таксама дзейнічаў — крытычна засудзіў сябе Ванько, — абрабляючы зонаўскія гоні, але, у так сказаць, тэарэтычным плане. За нейтронны плуг не ўсядаўся. А вось Лірнік Дубко (Творчы рух „Любасная Вяршыня") дзейнічаў практычна — за плуг не хапаўся, зусім не сеяў, але пажынаў найболей з усёй Зоны. Кукша Пукша, наадварот, натхнёна сездзіла нейтронным плугам, сеяла найбольш з усёй „Любаснай Вяршыні", але вось нічога ніколі не змагла сабраць. Падобна ж, абодва Артадоксы з „Месячніка", Хмялько і Бяроза, старанна прыкладаліся да вывучэння траекторыі нейтроннага плуга, але вырасці нічога ім не вырастала — мабыць таму, што засейвалі не зонаўскія гоні, а месячныя кратэры.

Ну і быў яшчэ Рубенс Валілка Другі, дзейнасць якога заключалася не ў абрабленні зонаўскіх гоняў, а ў іх выўленні. Рубенс Валілка Другі не карыстаўся дасягненнямі тэхнікі, упадабаў сабе цалкам традыцыйны інструмент — невялікае памяло.

Пакуль Арыстоцель Ванько рабіў гэты агляд, Цёзка Вярбко засыпаў Арыстоцелеву бульбу ў магнітна-стэльважны перадатчык ды ўсю яе з месца прыараў нейтронным плугам.

— Ну то бывайце.

Памяркоўным крокам, трошку клышавата, Арыстоцель Ванько пераступіў парог рэдакцыі „Гоняў"... Будзе якіхсьці трыццаць два палюбоўнікі, мільганула яму думка, калі ў памяці зрабіў падрахунак скібаў на загоне...